


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Ураднікі з меншасцямі →4


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 16 (3179) Год LXII Беласток, 16 красавіка 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Хрыстос уваскрос

**Няма важнейшай урачыстасці ў жыцці хрысціянства і няма ў зямным жыцці большай радасці, чым радасць ад уваскрэсення Збавіцеля, — падкрэсліваецца ў Праваслаўнай царкве. Свята Уваскрэсення называецца Пасхай Хрыстовай або Светлым Хрыстовым Уваскрэсеннем. Яно называецца сэрцам усегадовага літургічнага цыкла — святам свят і ўрачыстасцю ўрачыстасцей.**

Зноў хвалюемся велікоднай радасцю ад перамогі ўваскрэслага Хрыста над смерцю. Пераможаны сатана і род чалавечы весяліцца. „Уваскрэс Хрыстос і ўпалі дэманы. Уваскрэс Хрытос і весяляцца анёлы" — паведамляе Праваслаўная царква словамі Іаана Златавуста.

Паводле юліянскага календара велікоднае свята выпадае сёлета 16 і 17 (3 і 4) красавіка разам са святам паводле грыгарыянскага календара, якім карыстаецца заходняе хрысціянства. Да XVI стагоддзя каталіцкі і праваслаўны Вялікадні выпадалі ў той сам час. Разыходжанні ўзніклі тады, калі Каталіцкі касцёл увёў новы, грыгарыянскі каляндар. З тае пары Вялікдзень рэдка выпадае адначасна, найчасцей праваслаўны бывае тыдзень пасля каталіцкага, а бывае, што і два-чатыры тыдні пазней.

Прынцып вызначэння даты Вялікадня быў прыняты першым Усяленскім саборам у Нікеі ў 325 годзе, згодна якому нядзеля пасля першай вясенняй поўні пасля (ніколі раней) яўрэйскай Пасхі з'яўляецца велікоднай нядзеляй.

Хрыстос ведаў, што памрэ, каб стацца Збавіцелем чалавека, Любоўю мацнейшай за смерць. Меў Ён быць аддадзены ў рукі жорсткіх, бязлітасных людзей, вучаных, якія ўладарылі і судзілі, у рукі натоўпу і зброду. Меў быць сам пакінуты вучнямі, прыяцелямі, якім дапамог, прынёс палёгку аздараўленнем цела і душы. Адзінока меў стаць насупраць свайму наканаванню і чалавечай жорсткасці. Самотны — за нас усіх нам усім. Ісус ціхмяна чакаў таго, пра што ведаў. Яшчэ ноччу, перад узыходам сонца, сказаў Пятру, Якаву і Іаану: „Ужо наблізіўся час і Сын чалавечы прадаецца ў рукі грэшнікаў. Устаньце, вось наблізіўся той, хто прадасць Мяне" (Марк, 14:41-42).

У Праваслаўнай царкве велікодную радасць папярэджвае саракадзённы перыяд Вялікага посту, які, як і ў каталіцкім абрадзе, рыхтуе вернікаў да пасхальнай тайны. Вялікі пост завяршаецца Вялікім тыднем, які пачынаецца Вербнай нядзеляй у памяць Гасподняга ўваходу ў Іерусалім.

Найважнейшыя ўрачыстасці пачынаюцца ў Вялікі (Чысты) чацвер. Вечарам у храмах чытаюцца дванаццаць вытрымак з Евангелляў аб пакутах Хрыста, пасля якіх хор спявае ўрачыстыя песні, у іх ліку „Разбойнік". Вернікі ў той час трымаюць запаленыя свечкі, якія пасля набажэнства стараюцца данесці разам з агнём дадому; паводле павер'яў данесены агонь мае гарантаваць поспехі на цэлы год.




## Уваскрэс Хрыстос і ўпалі дэманы. Уваскрэс Хрытос і весяляцца анёлы!

У Вялікую (Страсную) пятніцу здзяйсняецца абрад вынясення плашчаніцы і хрэсны ход вакол царквы ў памяць пахавання Ісуса ў магіле.

У Вялікую суботу пасля богаслужэння святар едзе ў аддаленыя вёскі свянціць пасху — яйкі, мяса, печыва і іншыя стравы. Каля поўначы перад Гасподняй магілай, якая, упрыгожаная кветкамі і свечкамі, знаходзіцца пасярэдзіне царквы, правіцца ютрань Вялікай суботы. Святкаванне Вялікай суботы працягвае ўсяночная: вернікі стаяць у царкве і смуткуюць з прычыны Хрыстовых пакут. Апоўначы найстарэйшы чынам бацюшка заносіць плашчаніцу ў алтар, што абазначае канец Вялікага посту.

Велікодную ютрань свяшчэннікі пачынаюць спевам „Уваскрэсенне Тваё, Хрысце Спасе...", пасля гэтага адкрываюцца царскія дзверы, пачынаюць біць званы, а вернікі выходзяць з храма на хрэсны ход; на той час зачыняюцца дзверы царквы. Шэсце тройчы абыходзіць храм, далей святар перад зачыненымі дзвярамі спявае велікодны трапар і адчыняе царкву, з якой навонкі праліваецца радаснае святло. Ужо ў царкве бацюшка словамі „Хрытос уваскрос" аб'яўляе радасную навіну. Вернікі тройчы адказваюць „Сапраўды ўваскрос" і ўзаемна жадаюць сабе поспехаў ды выбачаюць правіны.

Літургія ў гэтую радасную ноч канчаецца каля шостай гадзіны раніцы. У завяршэнне набажэнства бацюшка асвячае пасху ўсім сабраным вакол царквы вернікам.

Цэлы тыдзень пасля Вялікадня называецца Светлым тыднем і гэты перыяд лічыцца часам прысутнасці Хрыста ў сваёй Царкве. Доказам радасці ад уваскрэсення з'яўляецца забарона кленчыць і біць паклоны.

У велікодны перыяд надзвычайна падкрэсліваецца лучнасць жывых з памерлымі. У трэці дзень свята вернікі пасля выхаду з храма наведваюць магілы блізкіх і паведамляюць іх аб уваскрэсенні Хрыста, запальваюць свечкі. Ад свята пачынаецца саракадзённы велікодны перыяд, у час якога вернікі вітаюцца словамі „Хрыстос уваскрос".

Міхал МІНЦЭВІЧ

# Царква ў Падбеллі

Кліча царква... Царква святога Прарока Ільі ў Падбеллі.

Мілагучны звон расхінае ранішні спакой. Царква за ўзвышшам-гарой, за Белай-ракой, за шаматлівым трысцём. Яна ля празрыстых крыніц, на беразе дабрыні і ў сіняве нябёс.

Храм заве ласкавым шэптам-просьбай матулі, якая памерла на 38 годзе жыцця, ціхай скаргай-жалем прадзеда, які пайшоў на Першую сусветную вайну і не вядома калі і дзе загінуў, асіраціўшы траіх малых дзетак. Край ад калыскі дарагі, зялёны, чысты – гэта мой родны кут. З усімі пакаленнямі дзядоў і прадзедаў я разам тут – памятаю, трываю.

З гарачым сэрцам і адкрытай душою расчыняю дзверы царквы... Ах, які праменны бляск! Якое хараство! Святыня ў белі, срэбрызолаце і ў блакіце.

Другое стагоддзе ў Свята-Ільінскай царкве ў Падбеллі палае агонь любові да Бога. Храм наш – веліч шчырай душэўнай прастаты, вольнай ад ганарыстасці і пагарды. Тут знікаюць боль, адчай, трывога. Ён – каўчэг выратавання на ўзбураным акіяне свету. Ён – апора, падмога і крэпасць.

У царкве ўсё імкне ўвысь – да нябеснай чысціні і дасканаласці. Табе мы, грэшныя, пакланяемся і молімся, Божа літасцівы, Божа ўсеўладны, Божа магутны. Творца зямлі і неба, Святы Несмяротны, памілуй нас!

Гоcпадзі Ісусе Хрысце, з Табой дзелімся шчасцем і горыччу, слязамі і ўсмешкамі надзеі, багаццем і беднасцю. Сыне Божы, ачысці правіны нашы!

Мы, вернікі, славім Айца, і Сына, і Дух Святы, жыццятворны, які ад Айца зыходзіць. Найсвяцейшая Тройца, злітуйся над намі.

Маці Прачыстая, спагадлівая, міласэрная, ахіні нас покрывам сваёй бязмежнай дабрыні, абарані ад ворагаў, бачных і нябачных, ад нягод і пакут.

Святы Прарок Ілья, услед за Табой мы хочам ісці дарогай веры, імя Тваё дае нам сілы.

Малітва набожная – хлеб для душы, святло для розуму, ахова ад агню і вады, ратунак ад нашэсцяў і вайны, ад ганьбы, здрады і няволі. Словы не звычайныя, цудадзейныя. Маліто̂ўны спеў сугучны няхай вядзе нас у светлую вечнасць – у Царства Нябеснае...

Над краем мілым, дарагім чулліва ўзносіцца царкоўны звон у Падбеллі...

Юрый БАЕНА





# Міліцыя сцеражэ

Са школьных гадоў радкамі з Маякоўскага нам убівалі ў галаву павагу і піетэт перад людзьмі ў пагонах: „Розовые лица. Револьвер жёлт. Моя милиция меня бережёт”. Вобраз падмацоўваўся іншымі, ужо дзіцячымі вершамі шматразовага аўтара гімна Савецкага Саюза пра добрага велікана — міліцыянта дзядзю Сцёпу. На тэму сачынення „Кім ты хочаш стаць?” міліцыянты стаялі ці не на трэцім месцы — услед за касманаўтамі і будаўнікамі светлай будучыні. З жыццёвым вопытам, аднак, гэты ружовы кніжны і экранны вобраз чалавека з кабурой, у блакітнай кашулі і фуражцы нейк размываўся, пакуль не набыў зусім адваротны сэнс.

Далёка не кожнай статыстыцы можна верыць, але вось днямі з'явіліся ў сеціве яскравыя лічбы. Дакладная колькасць супрацоўнікаў Міністэрства ўнутраных спраў у Рэспубліцы Беларусь чамусьці трымаецца ў сакрэце, з'яўляецца ледзь не службовай таямніцай. А вось паводле дадзеных ААН на кожныя сто тысяч насельніцтва Беларусі прыпадае ажно 1442 супрацоўнікі МУС. Для параўнання ў Савецкім Саюзе гэтая лічба складала ўсяго 214 функцыянераў. Тая ж ААН рэкамендуе сярэднюю лічбу 222. Высновы можа зрабіць кожны сам. Для яскравага параўнання можна толькі дадаць, што на другім месцы ў гэтым малапачэсным рэйтынгу ідзе Расея — 976 паліцэйскіх на сто тысяч насельніцтва. У развітых краінах гэты паказнік наступны: Італія — 552, Чэхія — 405, Францыя — 369, Польшча — 264, ЗША — 233, найменшы ён у Швецыі — 200 паліцэйскіх. І гэта пры тым, што ровень той жа тэрарыстычнай пагрозы ў бальшыні пералічаных краін куды вышэйшы, чым у Беларусі.

Для чаго патрэбная такая вялізная колькасць „драўляных салдат Урфін Джуса” яскрава паказалі падзеі гэтай вясны. Пасля канца 2010 года, калі жорстка была разагнаная і задушаная Плошча народнага пратэсту, ахоўнікам парадку нейк стараліся надаць станоўчы імідж, нават вучылі іх англійскай мове да чэмпіянату свету па хакеі. Але сапраўднае аблічча сілавікоў зноў выявілася „ва ўсёй красе”. „Салдаты не для ўпрыгожвання прыроды, а для застрашвання народа” — як казаў герой адной старой анімацыйнай стужкі. Асабліва гэта датычыць сталічнай мінскай міліцыі. Калі ў правіцлі людзі ў форме альбо без яе (як яны часта ходзяць) яшчэ неяк стрымліваюць свой імпэт, то ў Мінску жорсткія затрыманні, збіванні, здзекі з людзей сталі нормай. Хапаюць, б'юць і старых і малых, якія трапляюць пад зачыстку мірных пратэстаў грамадзян. Зразумела, што ўсё гэта паводле загадаў вышэйшага начальства. Пры тым яно — міліцэйскае і пракурорскае начальства не бачыць ніякіх парушэнняў і цынічна сцвярджае, што міліцыя дзейла карэктна і нічога не парушала. Тое, што людзі зафіксавалі збіванні і на фота, і на відэа, і нават дакументальна медыцынска шматлікія траўмы — толькі для гісторыі. Цяперашні ж генеральны пракурор Аляксандр Канюк заявіў, што ўсё было ў рамках закону, а караць трэба масмедыі, якія неаб'ектыўна падаюць інфармацыю. А вось сучасны помнік расейскаму гарадавому для начальніка мінскай міліцыі Аляксандра Барсукова — „святое месца”, як ён сказаў у інтэрв'ю. За перформанс, які здзейсніў малады чалавек, накінуўшы пятлю на гэтую скульптуру, пачата крымінальная справа. Вось так. Днямі адзін з аўтарытэтных нямецкіх тэлеканалаў назваў Беларусь „паліцэйскай дзяржавай”, падмацаваўшы гэты тэзіс дастаткова пераканаўчым сюжэтам на дзесяць хвілін. Сумненняў у найперш рэпрэсіўным прызначэнні беларускай міліцыі няма ніякіх ні для каго.

І вось, што характэрна — на мітынгах грамадзян ужо не пачуеш ранейшага пацыфісцкага лозунгу „Міліцыя з народам!”. Міліцыя і іншыя сілавыя структуры канчаткова страцілі давер у людзей. Цяпер, нават калі чалавек трапляе ў нейкую непрыемную бытавую гісторыю, ён сто разоў падумае, ці звяртацца яму ў органы аховы правапарадку. Ці не даражэй яму абыдзецца такі зварот? Да такіх думак штурхае ўвесь папярэдні асабісты і іншых досвед зносін са стражамі парадку. Настолькі адмоўная зараз рэпутацыя органаў, прызначаных паводле сутнасці быць праваахоўнымі.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Зразумець бестыю

Чалавек не хоча быць жывёлай, але жывёла з'яўляецца часткай яго прыроды і хоча выбрацца з яго толькі можа. Некаторы час таму сусед пнуў майго сабачку без прычыны. Можа быць, таму адчуваў немужчынскі страх перад ім і агрэсіяй спрабаваў аднавіць сваю страчаную мужнасць. А мабыць таму, што ён сволач. Мне ўсё роўна, што было прычынай яго жалюгодных паводзін. Гэты сусед разбудзіў ува мне мяне крыважэрнага звера. Да сёння я не магу яго ўціхамірыць у сабе.

Нядаўні бомбавы тэракт у пецярбургскім метро і імгненне пазней тэракт грузавіком на нявінных пешаходаў у Стакгольме, гэта чарговыя і не апошнія акты чалавечай жывёльнасці. Жывёльнасць з'яўляецца часткай нашай чалавечай прыроды і старанна хаванай першабытнасці. Такім чынам мы — бестыі. І ў той жа час яе пільныя стражнікі. Магчыма, знакаміты Кодэкс Хамурапі, які з'яўляецца першым наборам законаў, напісаных на світанку чалавечай цывілізацыі і выказаўшы мерканне: «вока за вока, зуб за зуб», найбольш поўна выказвае тую дваістасць чалавека. Нават калі Кодэкс страціў сёння сваю сілу юрысдыкцыі, яго першасная энергія да гэтага часу валодае намі. Жаданне адпомсціць за нанесеную шкоду, натуральнае як і падзяка за атрыманае дабро. Справа ў тым, каб бестыі пакінуць тое, што ёй належыць. А таму добраму ў чалавеку тое, што належыць да агульнага дабра. Перш за ўсё, звера трэба трымаць у клетцы. Гэта абавязак кожнага чалавека. Тут варта спытацца, хто або што прымушае яго забыць пра гэты абавязак. Занадта мяккае і агульна нездавальняючае ў сваёй несправядлівай справядлівасці права? Або бязмежнасць некампенсаваных крыўд, якія чалавек робіць чалавеку. Тэрарысты ўсё ж гэта такія ж людзі, як я ці кожны чытач «Нівы». Мы ўсе перажываем у сваім жыцці большыя ці меншыя несправядлівасці, крыўды, зламыснасці. Кожны з нас уносіць таксама свой уклад нейкім чынам у іх назапашванне. Звер, які цікуе ўнутры кожнага з нас, толькі гэтага і чакае. Усё ненасытны, незадаволены, гатовы да помсты і адплаты. Аднак, не ўсе дазваляюць яму авалодаць намі. Таму што яны яе пільныя стражнікі, якія не апускаюць вачэй у прысутнасці звера. Такім чынам яны пазнаюць яго сілу. Магчыма, гэта самая важная частка нашага самапазнання?

Вялікі даследчык чалавечай прыроды Карл Юнг назваў гэта працэсам індывідуацыі. Не зможаш прайсці яго беспакарана, што ён даказаў сваім жыццём, давёўшы сябе амаль да шаленства. Паглыбляліся ў яго бездань Буда, Хрыстос, Магамет; кожны з іх мусіў супрацьстаяць свайму ўласнаму «ценю», які з'яўляецца ўвасабленнем індывідуальнай несвядомасці. Майстра Экхарта вывела з яго «іскарка душы». Яго святло ўдарыла Фаму Аквінскага, Лейбніца і Спінозу. На падобны шлях самапазнання ўвайшлі таксама Ніцшэ і геніяльны нямецкі паэт Гёльдэрлін. Але апошнія два з іх не знайшлі, аднак, з яе выхаду. Хоць ідэя самапазнання, якую Юнг ахапіў як гнастыцызм, мэтай якога з'яўляецца не толькі само спазнанне, але перш за ўсё ідэнтыфікацыя, сплаў з пазнаным — ужо ці то спантанна ў выглядзе прасвятлення, ці ў выніку метадычнага трэніравання — вартае магчымых небяспек. Чым больш мы ведаем пра сябе, тым больш авалодваем звера, які ўнутры нас быў, ёсць і будзе. Магчыма, адпаведны шлях для гэтага — дараванне. Але гэта трэба спачатку цалкам зразумець. Каб зразумець бестыю.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Благавешчанскі бусліны танец

Пранізлівым, халодным ветрам запаміталася мне сёлетняя Вербніца. Праз хмары не прабілася нават і сонца. На шчасце не сыпанула халодным даждом на вернікаў з вербачкамі, ці як у братоўкатолікаў з пальмамі. Ідучы па Беластоку здавалася, што бачны менавіта толькі людзі з гэтымі ўпрыгожаннямі. Нягледзячы на холад, людзі цэлымі сем'ямі, часта шпацыруючы, вярталіся з касцёлаў і цэркваў да сваіх дамоў. Супольная дата святкавання Вербніцы ў гэтым годзе для ўсіх хрысціян розных канфесій на Падляшскай зямлі адзначалася веліччу, радасцю, але і прыцішанасцю. Неспакойныя падзеі ў свеце пакідаюць і свой адбітак у настроях грамадства. Калі я вярнуўся пасля багаслужбы дадому, то даведаўся, што нядзельнай раніцай у Егіпце ў храмах Копцкай праваслаўнай царквы ў час Вербнага богаслужэння выбухнулі бомбы і загінула там сорак чатыры асобы, а звыш сто дваццаць атрымалі раненні. З надзеяй і верай у Бога ў перадвелікодны перыяд прыйшлі яны ў сваю царкву, а там чакала іх смерць. Злачынныя тэрарысты чарговы раз у ісламскіх краінах даказваюць, што галоўным іхнім ворагам з'яўляецца менавіта хрысціянства. Колькасць забітых і выгнаных хрысціян ідзе ў дзясяткі тысяч асоб, а еўрапейскія кіраўнікі не бачаць у тых падзеях пагрозы для нашай цывілізацыі. Чым гэта можа ўсё закончыцца, не цяжка, на жаль, увідзіць.

Хрыстос, уязджаючы ў Вербную нядзелю ў Іерусалім, менавіта таксама і сімвалічна хоча ўехаць і пасяліцца ў людскіх сэрцах і душах. Ці прымаем мы яго надаўжэй у сваім цялесным і духоўным доме? Ці знаходзіць ён разуменне для сваёй навукі ў нашых штодзённых паводзінах? Гэта пытанні і выклікі, якія заўсёды спадарожнічаюць хрысціянскаму светапогляду. Вядома, усе мы грэшныя людзі, але чалавечыя ўдзячнасць і дабрыня павінны вынікаць таксама з факту дадзенага нам дабрадзейства зямнога жыцця. У перыяд Велікоднага посту сэнс адноснасці зямнога і вечнага жыцця невымоўна моцна ўздымаецца ў евангельскіх чытаннях і хаця б на хвілінку прымушае нас задумацца над імгненнем прамінання. Надзея і прамінанне — закрыты кругаварот чалавецтва.

Менавіта так склалася ў гэтым годзе, што два дні да Вербнай нядзелі, адзначылі мы свята Благавешчання. Гэтае свята мае вельмі моцную повязь з прыродна-абрадавым цыклам беларускага сялянства. Сімвалічны абрад выпякання «бусловых лапаў» перажыў распад нашай традыцыйнай, вясковай беларускасці. Са святам Благавешчання звязаны шмат прыказак і павер'яў. Нягледзячы на сонечнае надвор'е, сам дзень быў у гэтым годзе таксама даволі халодным. З прыступак свайго роднага дома я амаль гадзіну ўглядаўся ў сіняе неба, на якім, несеная паветранай плынню пара бусloў без аніякай патрэбы махання крыламі, кружылася над нашай вёскай. Яны проста плылі на паднебных ветразях. Без аніякага клёкату пара то прыбліжалася, то адлятала ад сябе. Відаць, шчасце не патрабуе празмерных гукаў, а ў выпадку людзей — слоў. У той момант аніякія іншыя птушкі не папсавалі ім гэтага паднебнага, благавешчанскага танца. Было толькі сонца, неба, буслы і бязмежны далягляд. Бо, як здаўна сказана, у гэты дзень нават птушкі не ўюць сваіх гнёздаў. І раптам яны зніклі з маіх вачэй. Расплыліся ў недасяжнай зроку вышыні.

Крыху змерзлым вярнуўся я ў хату, дзе мой бацька той халодны дзень без аніякага здзіўлення пракаментаваў проста народнай мудрасцю і жыццёвай прыпавесцю. Вось яна: **«Да Благавешчання зімы не лай і ад санак аглобляў не адчапляй».** І распавёў мне, як яму калісьці старажылы расказалі гісторыю пра пабудову царквы ў Белай (зараз гэтая вёска за мяжой, у Беларусі). Менавіта тыдзень да Благавешчання выпаў снег і мароз быў пад трыццаць градусаў. Дзякуючы таму праз замёрзлую рэчку на санках людзі маглі навезці патрэбнае дрэва на ўсю царкву. Калі тое зрабілі, мароз і снег прапалі. А царква ў Белай красавалася сваёй прыгажосцю. На жаль, потым падпалілі яе немцы ў канцы вайны. Як распавёў мне тата, то апаленыя карткі святых кніг у час пажару, дзьмутыя ветрам, пераляталі па-над лесам аж да вёсак з гэтага боку Белавежскай пушчы. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя.

**Яўген ВАПА**

# Маладыя дэкламатары

**Падчас цэнтральных спаборніцтваў 46 Дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова», якія 31 сакавіка арганізавала ў Бельскім доме культуры Таварыства беларускай культуры, з дапамогай Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, лепшыя дашкольнікі, вучні пачатковых школ і гімназій дэкламавалі на высокім мастацкім узроўні. Сярод больш за 110 дэкламатараў цэнтральных спаборніцтваў найбольш было дзетак з класаў I-III, а найменш дашкольнікаў.**

— Падчас сённяшніх цэнтральных спаборніцтваў дэкламатары ва ўсіх катэгорыях выступілі на высокім узроўні і таму складана будзе вылучыць пераможцаў. Вучні дэкламуюць амаль беспамылкова і ў гэтым заслуга настаўнікаў, бацькоў, ці бабуль і дзядуляў, якія дапамагалі дэкламатарам падрыхтавацца да конкурсу. У мінулым здараліся ў вучняў памылкі з націскам і вымаўленнем, чаго сёння амаль не было. Я ўражаны дэкламацыяй дашкольнікаў. Выступілі яны найбольш натуральна, без непатрэбнай інтэрпрэтацыі і заадно займальна. У цэлым цешаць дасканалыя выступленні на беларускай мове дэкламатараў усіх узроставых катэгорый, — сказаў, падводзячы вынікі конкурсу, старшыня журы, намеснік старшыні ГП БГКТ Васіль Сегень.

За ходам конкурсу сачылі таксама старшыня ГП БГКТ і заадно віцэ-старшыня Таварыства беларускай культуры Ян Сычэўскі і супрацоўніца ГП БГКТ Кацярына Філіпік, а мерапрыемства ўдала вяла тэатральны інструктар БДК Альжбета Фіёнік. Высокі мастацкі ўзровень удзельнікаў конкурсу і трапную падборку рэпертуару да іх магчымасцей падкрэслілі астатнія члены журы — настаўніца Гайнаўскага белліцэя Ірэна Ігнатовіч і паэт Юрый Баена.

Першымі адважна і займальна прадэкламавалі свае вершыкі дашкольнікі адукацыйных установаў Бельска-Падляшскага, Орлі, Гайнаўкі, Беластока і з Вясковага дома культуры ў Рыбалах. У рэпертуары наймалодшых дэкламатараў былі вершы Віктара Шведа, Станіслава Шушкевіча, Артура Вольскага, Васіля Віткі і іншых беларускіх паэтаў. Натуральныя паводзіны дашкольнікаў перад публікай і жэстыкуляцыя рабілі дэкламацыю асабліва цікавай. Пасля падвядзення вынікаў аказалася, што ў катэгорыі дашкольнікаў першае раўнапраўнае месца занялі Ніна Нічыпарук з Непублічнага садка № 1 ім. св. Дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім і Дамініка Лепай з Самаўрадавага садка № 14 у Беластоку. На другім месцы апынуліся Зузанна Міранкевіч і Юліянна Шчыкоўская з НС № 1 ім. св. Дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску і Аксана Кулік з СС № 14 у Беластоку. Трэцяе месца занялі Анастасія Франкоўская з СС № 1 у Гайнаўцы і Габрыель Якімюк з СС № 14 у Беластоку.

Займальна і на высокім мастацкім узроўні дэкламавалі вучні класаў I-III і ў гэтай катэгорыі Мікола Абрамюк з Комплексу непублічных школ ім. свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку здабыў узнагароду Гран-пры конкурсу «Роднае слова». Быў ён рады сваёй дэкламацыі твора «Пеўнік і злоснік» Уладзіміра Карызны (пасля выступу паявілася меркаванне, што Міколку так добра навучыла дэкламаваць яго бабуля Ніна).

— Я толькі запрапанавала твор майму ўнучку, а ён сам ужо вучыўся дэкламаваць. Дапамагаў яму бацька, які ведае дэкламатарскую справу. Мікола — таленавіты хлопчык і ведае як трэба дэкламаваць. Ён умее гаварыць на нашай гаворцы з-пад Нарвы і паспяхова вучыцца беларускай літаратурнай мове, — дыпламатычна сказала бабуля Міколы, настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк з Нарвы, вучні якой шмат разоў займалі прызавыя месцы на цэнтральных спаборніцтвах конкурсу «Роднае слова».

— Я падбіраю для дэкламацыі тэксты, якія падыходзяць менавіта мне, дзе магу паказаць свае эмоцыі, перажыванні і таму рашыўся на твор Юркі Геніюша «Аніська задумаў жаніцца». Я люблю дэкламаваць, расказваць і выступаць у тэатральных прадстаўленнях. Такія выступы важныя для прапагандавання роднай мовы і захавання беларускай тоеснасці, а з беларускай свядомасцю цяпер ёсць па-рознаму сярод моладзі, — сказаў Крыстыян Паскробка выхаванец Ніны Абрамюк, вучань Школьна-дашкольнага комплексу ў Нарве, які чарговы раз заняў першае месца сярод гімназістаў.



Гран-пры конкурсу атрымаў Мікола Абрамюк з КНШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

— У нашай школе амаль усе вучні прыступілі да школьнага этапу дэкламатарскага конкурсу, падчас якога былі вылучаны лепшыя дэкламатары.



Габрыель Якімюк з Самаўрадавага садка № 14 у Беластоку

Ажно 3 нашых дэкламатараў на агульны лік 18 вучняў нашай школы дабраліся на цэнтральныя спаборніцтвы, што ўжо з'яўляецца вялікім поспехам для нашай невялічкай школы, — заявіла настаўніца беларускай мовы Непублічнай пачатковай школы ў Арэшкаве Ірэна Герасімюк.

— Вучні нашай беларускай гімназіі дэкламуюць па-беларуску і дабіваюцца поспехаў падчас конкурсу «Роднае слова». Тут вялікая заслуга настаўнікаў беларускай мовы ў пачатковых школах, якія вучаць сваіх дзетак дэкламаваць. Калі яны прыходзяць вучыцца ў нашу белгімназію, ведаюць ужо асновы мастацкага чытання, самі вучацца дэкламаваць, а пасля пры дапамозе настаўнікаў выпраўляюць недахопы, — сказала настаўніца беларускай мовы Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы Яланта Грыгарук.

— Падабаўся мне твор, які я дэкламавала. Цікава таксама было паслухаць іншых выступоўцаў, ад якіх можна было павучыцца мастацкага чытання, — сказала Анна Мароз з Комплексу школ № 2 у Гайнаўцы.

— У КШ № 2 у Гайнаўцы было многа ахвотных дэкламаваць па-беларуску. Многа вучняў прыступіла да раённых адборачных спаборніцтваў, якія праходзілі ў Гайнаўскім доме культуры. На цэнтральныя спаборніцтвы былі кваліфікаваны 3 вучні. Я з настаўніцай беларускай мовы Эвай Анішчук зрабілі ўсё, каб яны ўдала тут выступілі і будзем чакаць рашэння конкурснай камісіі, — сказала настаўніца беларускай мовы Аліна Якімюк (пасля аказалася, што вучні гэтай школы занялі першае і другое месцы).



У катэгорыі гімназістаў першае месца заняў, між іншым, Максім Фіёнік з бельскай «тройкі»

— У нашай школе ў Белавежы многія дзеткі, якія вучацца беларускай мове, хочуць ехаць у Гайнаўку дэкламаваць па-беларуску. Сёлета я рада, бо нашы вучні дэкламавалі займальна і дабіліся многіх поспехаў падчас цэнтральных спаборніцтваў, — заявіла настаўніца беларускай мовы ў ШДК у Белавежы Анджаліна Масальская, з якой размаўляў я пазней у Гайнаўскім белмузеі.

— Я люблю дэкламаваць і рада, што выступіла тут з творам «Сарока з Сарочай Ножкі», — заявіла Каліса Пятроўская з ПШ № 4 у Беластоку і дабавіла, што дэкламаваць навучыла яе мама.

З КНШ свсв. Кірылы і Мяфодзія і Публічнай гімназіі № 7 у Беластоку вучняў на дэкламатарскі конкурс прывезла настаўніца беларускай мовы Іаанна Васілюк. Беластоцкія дэкламатары выступілі годна і дабіліся перамогі ў розных катэгорыях. Гімназістка Наталля Савіцкая сказала, што выступае на цэнтральных спаборніцтвах чарговы раз і будзе карыстацца вопытам, які здабыла ў мінулых гадах. Яе школьная сяброўка Вікторыя Пякарская заявіла, што выступіць першы раз і таму сочыць за выступамі іншых дэкламатараў. Лепшыя дэкламатары з КШ у Гарадку прыехалі з настаўніцай беларускай мовы Тамарай Бялькевіч і адной з мам. Ілья Фіёнік з бельскай «тройкі» сказаў, што стараецца спачатку зразумець тэкст, а пасля многа разоў трэніруецца, таксама пад наглядам сваёй мамы, каб навучыцца правільнаму мастацкаму чытанню. Менавіта з бельскай «тройкі» прыбыло на цэнтральны этап конкурсу найбольш дэкламатараў. Настаўніца беларускай мовы ў гэтай школе Марта Ігнатовіч сказала, што непасрэдна ў «тройцы» адбыўся асобны раённы адбор і ў цэнтральных спаборніцтвах выступілі ўжо найлепшыя школьныя дэкламатары.

Аляксандра Буслоўская з КШ № 3 у Гайнаўцы сказала, што ў гэтым годзе асабліва высокі ўзровень дэкламацыі ва ўсіх катэгорыях. Дар'я Місяюк з Гайнаўскай белгімназіі, якая здаўна дэкламуе па-беларуску, заявіла, што прыехала на гэты раз з малодшым братам Габрыелем, які вучыцца ў КШ № 3 у Гайнаўцы і стаў падтрымліваць сямейныя традыцыі.

— Калі рыхтую вучняў да конкурсу, стараюся растлумачыць ім змест верша, які яны дэкламуюць, звяртаю ўвагу, каб яны правільна навучыліся вымаўляць паасобныя словы. Вельмі важнай з'яўляецца індывідуальная інтэрпрэтацыя твора, — сказала настаўніца беларускай мовы ў КШ № 3 у Гайнаўцы Беата Кендысь.

— У нашым КШ № 1 у Гайнаўцы больш дзетак стала хадзіць на ўрокі беларускай мовы і вучні першых класаў ахвотна развучваць вершыкі па-беларуску. Лепшыя дэкламатары дайшлі ажно да цэнтральнага этапу нашага конкурсу, — сказала настаўніца беларускай мовы ў гэтай школе Анна Франкоўская.

Пасля падвядзення вынікаў аказалася, што **Гран-пры** конкурсу атрымаў **Мікола Абрамюк** з КНШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.

У катэгорыі вучняў **класаў I-III** першае месца атрымалі **Малгажата Скшыняж** з бельскай «тройкі» і **Міхал Зайкоўскі** з КШ № 2 у Гайнаўцы. Другое месца занялі **Каліса Пятроўская** з ПШ № 4 у Беластоку, **Алівія Жэпка** з ШДК у Нарве, **Анна Мароз** з КШ № 2 у Гайнаўцы, **Таіса Фіёнік** і **Мартына Гераз** з бельскай «тройкі», а на трэцім месцы апынулася **Аляксандра Кузьма** з КНШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Давід Сураль** з НПШ у Арэшкаве, **Марыя Валосік** са ШДК у Белавежы і **Антоні Сідаровіч** з КШ у Чыжах.

З ліку вучняў **класаў IV-VI** першае месца занялі **Барташ Яканюк** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Анна Іванюк** і **Іван Карсунскі** з КНШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку і **Сяргей Шэшка** з КШ у Ягуштове. Другое месца атрымалі **Ілья Фіёнік** з бельскай «тройкі», **Марына Місяюк** з КНШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Паўліна Дзмітрук** з ПШ № 3 у Гайнаўцы, **Марыя Марчук** са ШДК у Белавежы і **Якуб Васільчык** з КШ у Нараўцы, а на трэцім месцы апынулася ажно 7 вучняў: **Габрыеля Грэсь** з КШ у Гарадку, **Марыя Ціханюк** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Анджаліка Шпаковіч** са ШДК у Белавежы, **Вікторыя Гаць** з бельскай «тройкі», **Марыюш Краська** з НПШ у Арэшкаве, **Аляксандра Максімюк** з КШ у Чыжах і **Ніна Марціновіч** з Гмінна-га комплексу школ у Міхалове.

У катэгорыі **гімназістаў** першае месца занялі **Максім Фіёнік** з бельскай «тройкі», **Мартына Белавежац** з КШ у Чыжах, **Крыстыян Паскробка** са ШДК у Нарве і **Малгажата Галёнка** з Гайнаўскай белгімназіі. Другое месца было прызначана **Юліі Скарбіловіч** і **Вераніцы Федарук** з бельскай «тройкі», **Валерыі Люляк** з ГКШ у Міхалове, **Якубу Казіміруку** з Гайнаўскай белгімназіі, **Наталлі Савіцкай** з ПГ № 7 у Беластоку, **Монікі Зырчук-Жар** з КШ з ДНБМ у Орлі, а трэцяе месца занялі **Аляксандра Буслоўская** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Дар'я Місяюк** з Гайнаўскай белгімназіі, **Патрыцыя Нічыпарук** і **Ганна Філіпюк** з бельскай «тройкі».

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Сустрэча з меншасцямі

**У сераду, 5 красавіка, у Ваяводскай управе адбылася сустрэча падляшскага ваяводы Багдана Пашкоўскага з прадстаўнікамі нацыянальных меншасцей ваяводства. У сустрэчы прысутнічала таксама Тэрэса Качмарэк, выконваючая абавязкі дырэктара дэпартамента веравызнанняў ды нацыянальных і этнічных меншасцей Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі.**


Тэрэса Качмарэк і Багдан Пашкоўскі
Фота Аляксандра Вярбіцкага

Ваявода адкрыў мерапрыемства і выказаў спадзяванне, што сустрэча можа быць нагодай для вынясення меншасцямі пастулатаў у адрас улад і ацэнкі меншасцямі рэалізаванай уладамі палітыкі ў адносінах да меншасцей. Спадзяюся, сказаў ваявода, што наша, прадстаўнікоў урадавай адміністрацыі, супрацоўніцтва з меншасцямі не выглядае найгорш. Ваявода дадаў, што ён сам, наколькі яму дазваляе расклад ягоных заняткаў, стараецца бываць на арганізаваных меншаснымі арганізацыямі мерапрыемствах, або такіх падзеях, якія маюць шырэйшы гістарычны кантэкст. Спадар **Багдан Пашкоўскі** прызнаўся, што цягам апошняга года, калі ён займае пасаду ваяводы, істотных пастулатаў у яго адрас амаль не было. Службы ваяводы прыглядаліся падзеям, якія асвятлялі масмеды, і ваявода свядомы тых клопатаў і трывог, якія кранаюць меншасныя арганізацыі. Заявіў ён далей, што ён адкрыты на меншасныя справы і гатовы сустракацца з прадстаўнікамі меншасных арганізацый, калі будзе такая патрэба. Затым ваявода папрасіў спадарыню дырэктар Тэрэсу Качмарэк, каб яна паінфармавала пра дзейнасць яе ведамства ў адносінах да нацыянальных меншасцей.

Дырэктар **Тэрэса Качмарэк** агаварылася спачатку, што дэпартаментам кіруе коратка і да часу, што гэтая праца цяжкая і няўдзячная; у апошнім часе было крыху змен так у міністэрстве, як і ў дэпартаменце і цяпер дэпартамент „гоніць справы, выбіваючыся з апошніх сіл". Дырэктар запэўніла, што ейная ўстанова стараецца як мага аператыўна спраўляцца з патрэбамі меншасцей, каб яны атрымалі чаканую падтрымку тэрмінова. Сёлета сітуацыя ўскладнілася, бо міністр рашыў, што датацыі нацменшасцям будуць паступаць траншамі, а не аднаразова як дагэтуль. У снежні быў размеркаваны першы транш, у лютым — другі, а трэці будзе размеркаваны вясной. Дырэктар адзначыла, што прынцыпы і працэдуры размеркавання па сутнасці не мяняюцца. Аднак ува ўсіх многа эмоцый выклікалі новыя формулы дагавораў, аднак яна гатова да ўпаду дапамагаць разбірацца з імі. Паінфармавала яна, што мае з сабою формулы, якія падпісваюць іншыя ўстановы і яны больш строгія; і што гэтыя новыя дагаворы міністэрства з меншасцямі не так ужо трагічныя, што такія дагаворы дзейнічаюць у іншых грамадскіх прасторах многа гадоў. Другі транш быў пакінуты дзеля задавальнення апеляцый ад размеркавання першага транша, а трэці транш прызначаны на новыя патрэбы, якія могуць узнікнуць цягам года; дагэтуль усё размеркаванне датацый было рэалізавана адным траншам. І трэці транш гэта па сутнасці новае размеркаванне на новыя патрэбы.

Далей, адказваючы на запытанні прысутных, спадарыня дырэктар паінфармавала, што не толькі меншасцям складана працаваць з новымі патрабаваннямі, але і дэпартаменту, бо ён быў „mocno przetrzebiony". Новыя патрабаванні, гэта новаўвядзенні ў фінансавае справаводства, якіх мэтай уніфікацыя з агульным справаводствам, і яны, паводле спадарыні дырэктар, маюць апрача заган — уводзяць дадатковыя кошты, таксама і станоўчыя стораны, бо справы маюць быць больш празрыстыя. Новыя прынцыпы нас таксама паставілі пад сценку, сказала, бо нам трэба было неадкладна выканаць паслякантрольныя ўказанні. Я прасіла прадстаўнікоў меншасных арганізацый, каб яны заангажаваліся ў „змены на лепшае", каб падказвалі лепшыя ідэі. А спадар міністр вельмі адкрыты, як гэта шматразова падкрэслівае, на ідэі, на інавацыі. Я таксама стараюся як магу і заахвочваю вас, калі ў каго ёсць добрая ідэя, заяўляйце яе нам. Я буду вельмі рада, калі вы будзеце ўдзельнічаць ува ўсіх гэтых разважаннях. У мяне вялікі клопат, калі ў вашых прадстаўнікоў разыходжанні, як меркаваць пра іх. Гэты метад размеркавання сродкаў, які быў выпрацаваны пры цары Гароху, мо ён і добры, але пры вашым удзеле я буду ўпэўнена, што зроблена яно акуратна. Добра было б, каб паасобныя меншасці выказаліся, як размяркоўваць сродкі з гэтага вялікага пула, каб было справядліва. Трэба было б выпрацаваць нейкі алгарытм, на аснове лічэбнасці меншасцей паводле апошняга перапісу насельніцтва, як бы працэнтна размяркоўваць сродкі. Вядома, малалікія меншасці былі б вельмі пакрыўджаны і нямнога маглі б зрабіць. Затое тыя шматлікія мацнелі б яшчэ больш. І трэба выдумаць нейкі алгарытм, каб крышку забраць тым вялікім і даць тым меншым — каб было справядліва. Вельмі вас заахвочваю, каб вы пахіліліся над праблемай, як размяркоўваць сродкі для меншасцей. Але размеркаванне гэта найменшая праблема. Найбольшай праблемай з'яўляецца размеркаванне сродкаў у рамках дадзенай меншасці. Каня са збруяй таму, хто ўзяўся б за такую задачу. Я ўжо прапанавала такое ангажаванне, але ніхто не хоча. А вы ж ведаеце найлепш, як у вашай меншасці размеркаваць сродкі, бо я гэтага не ведаю, я ведаю толькі тое, што мне напішаце, тое што прачытаю. Некаторыя справы прасочваюцца паміж радкамі і не ўсё магчыма апісаць а пасля прачытаць. Паасобныя меншасці павінны так сарганізавацца, каб ведаць, што ў дадзенай меншасці мае адбывацца. І тады вы маглі б сказаць, што добрае і каштоўнае, а што менш патрэбнае. Вельмі заахвочваю, каб актывізавацца і выдумаць нешта такое карыснае і добрае вам.


Фота racyja.com

**Станіслаў Станкевіч** ад ромскіх арганізацый сказаў, што меншасцей нельга лічыць нейкім мінным полем, якое трэба нейтралізаваць. Мы не з'яўляемся пагрозай, мы з'яўляемся найбольш асертыўнымі грамадзянамі гэтай дзяржавы. Трэба было б стварыць такую мадэль, якая гарантавала б правядзенне найважнейшых мерапрыемстваў меншасцей, бо яны станоўча ўспрымаюцца і большасцю. Гэта магла б быць нават рэкамендацыя мясцовым органам, бо такія мерапрыемствы не толькі ўзнімаюць прэстыж рэгіёна, але ў сённяшні трывожны час выконваюць ролю свайго роду адукатара. Наша грамадскасць не надта даўно перайшла на аселы лад жыцця і мы стараемся нешта рабіць і гэтага нельга лічыць мінным полем.

**Ігар Лукашук**, старшыня аб'яднання „Шчыты" выказаў патрэбу правядзення адукацыйнай акцыі пра меншасці, бо наглядаецца дэфіцыт ведаў пра меншасці ў грамадстве.

На гэтае патрабаванне адказаў ваявода, што такія мерапрыемствы ў агульнасці праводзяцца, але нейкі дэфіцыт гэтых ведаў ёсць і былі размовы з установамі культуры ваяводства пра патрэбу шырэйшай прэзентацыі культуры меншасцей, а прадстаўніца Куратарыі вельмі агульна паінфармавала пра навучанне беларускай мове ў школах ваяводства.

Старшыня БГКТ **Ян Сычэўскі**: — Я хачу звярнуць увагу на праблему вельмі важную з ліку тых, якія рэалізуе Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Мы лічым, што культура кожнай нацыянальнай меншасці поўнасцю перспектыўная, калі развіваецца ў міжкультурным дыялогу, калі яна не ізалявана выключна да свайго нацыянальнага асяроддзя. Тады яна дыхае на поўныя грудзі, тады ў яе магчымасці развіцця. Хачу зазначыць, што Беларускае таварыства заўсёды думае пра тое, каб беларускія мерапрыемствы мелі шматгранны характар і каб адкліканіся да іншых нацыянальных асяроддзяў, асабліва да польскага, як найбольш шматлюднага. З такой думкай мы ладзім некаторыя мерапрыемствы, якіх мэтай прэзентацыя розных нацыянальных культур. Звыш дваццаці гадоў таму супольна з самакіраваннем Мельніка мы сталі ладзіць агульнапольскія прэзентацыі культур нацменшасцей „Музычныя дыялогі над Бугам". Шэсць гадоў таму мы сталі ладзіць мерапрыемства, таксама з мэтай прэзентацыі культур розных меншасцей, пад лозунгам „Культура без межаў" у Сямятычах; невыпадкова — Сямятычы гэта гранічная мясцовасць з пункту гледжання рассялення беларусаў. Далей: важнай справай з пункту гледжання міжкультурнага дыялогу з'яўляецца арганізаванне ад звыш дваццаці гадоў у супрацоўніцтве з польскай меншасцю ў Беларусі і беларускай у Польшчы двух мерапрыемстваў. Адно з іх — навуковая канферэнцыя „Шлях да ўзаемнасці", ладжаная дагэтуль. І паралельна Фестываль польскай і беларускай культур — польскай у Беларусі і беларускай у Польшчы, ладжаных naперамен у Гродне і Беластоку, якія паказваюць са сцэны польскую культуру ў Беларусі і беларускую ў Польшчы. Раней Міністэрства культуры, калі сродкаў было значна менш, пастаянна дафінансоўвала гэтыя мерапрыемствы, то з 2005 года Міністэрства ўнутраных спраў не дае ні граша. Лічым, што такое рашэнне міністэрства памылковае. А мы ж, меншасці, чакаем таго асаблівага мецэнату для меншаснай культуры; інакш тая культура будзе вянуць і ўсыхаць.

**Яўген Чыквін** з Фонду Канстанціна Астрожскага: — Я хачу прасіць, каб праявіць ініцыятыву адносна сітуацыі беларускай меншасці, таму што зараз беларуская меншасць апынулася бадай у найгоршай сітуацыі. Даныя з перапісу насельніцтва, пра якія згадвала спадарыня дырэктар, паказваюць, што ў дзесяцігадовы перыяд паміж перапісамі насельніцтва іншая нацыянальнасці расла, калі ў той час беларуская паменшала на 20%, і то ў сітуацыі, калі можна было дэклараваць дадаткова польскую нацыянальнасць. Тут і дэпапуляцыя тэрыторы пражывання. Прычыны паланізацыі беларускай меншасці вядомыя і тут важная роля навуковага асяроддзя. Важнае таксама супрацоўніцтва з самаўрадамі.

Ваявода **Багдан Пашкоўскі** выказаў меркаванне, што такую сустрэчу можна наладзіць, запрашаючы на яе і гісторыкаў, і прадстаўнікоў розных асяроддзяў, якія маюць розныя погляды, а пуцяводнай зоркай павінна быць гістарычная праўда. Некаторым справам не трэба прыдаваць палітычнага дынамізму, а трэба супакойваць атмасферу вакол гэтай праблемы. Ваявода крытычна выказаўся пра такое мерапрыемства, ладжанае ўладамі Гайнаўкі, што яно было арганізавана лозунгава, без дбайна прадуманага ў ім удзельніцтва.

Былі вынесены і іншыя праблемы, якія кранаюць чыста тэхнічных спраў супрацоўніцтва меншасцей з міністэрствам, былі таксама агучаны некаторыя праблемы літоўскай, татарскай, ромскай і яўрэйскай меншасцей, да якіх прадстаўнікі ўрада заявілі гатоўнасць прыкласці намаганні дзеля іх вырашэння.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**



# Польская меншасць на постсавецкай прасторы

Злева: Галіна Смулко, Андрэй Пачобут, Эдыта Максымовіч на фоне карты ІІ Рэчы Паспалітай

Не пагаджаюцца на называнне іх „палёніяй” бо з пакалення ў пакаленне жылі на гэтых землях. Сілу і развіццё сваёй меншасці абапіраюць на чатырох стаўпах: школьніцтва, Касцёл, СМІ і культура. Палякі на Усходзе ў залежнасці ад палітыкі дадзенай дзяржавы змагаюцца за свае правы і існаванне. Маршалак Падляшскага ваяводства Мацей Жыўна ў час канферэнцыі зарганізаванай у Маршалкоўскай управе 3 красавіка 2017 г., прысвечанай тэме палякаў у Літве, Латвіі і Беларусі сказаў, што ў сённяшнія часы яшчэ цяжэй быць палякам за ўсходняй мяжой. Мерапрыемства зладзіў Рэгіянальны асяродак міжнароднай дыскусіі ў Беластоку пад кіраўніцтвам Анны Кетлінскай.

### “Палякі Літвы — самая моцная меншасць на Усходзе”

Паводле дадзеных найбольшая польская меншасць жыве ў Літве. Тут на 3 мільёны насельніцтва палякаў ажно 250 тысяч. Найбольшыя цэнтры польскай меншасці на Літве гэта Віленскі (60%) і Солечніцкі (80%) раёны ды сама Вільня. У Латвіі гэта 2,5%, што дае 45 тысяч жыхароў польскай нацыянальнасці. Паводле перапісу насельніцтва ад 2009 года на Беларусі на 9 мільёнаў насельніцтва палякаў 294 тысяч. Гэтыя дадзеныя выклікаюць шмат рознагалосся. Параўноўваючы вынікі перапісу ад 1999 года, польская меншасць паменшылася на 25%.

— Перапіс ад 2009 года не даказвае, што польскай меншасці менш, — тлумачыў журналіст Андрэй Пачобут. — Проста паводле сабраных дадзеных гэта колькасць беларусаў пабольшылася, што паўплывала на меншы адсотак усіх нацыянальных меншасцей, у тым ліку і польскай.

Як заўважыла польская журналістка на Літве Эдыта Максымовіч, немагчыма параўноўваць сітуацыю палякаў на Літве з сітуацыяй палякаў на Беларусі.

— Палякі Літвы — самая моцная меншасць на Усходзе. Несумненна, што ў нас былі больш спрыяльныя ўмовы для падтрымання сваёй тоеснасці, — адзначыла. — У нас заўсёды былі польскія школы, польская мова ў касцёлах. Таму тысячы палякаў з БССР пераехала жыць на Літву.

### Адукацыя, як аснова захавання тоеснасці

Польская інтэлігенцыя амаль поўнасцю была знішчана. Для прыкладу, з Літвы на пачатку саракавых гадоў 150 тысяч палякаў было вывезены у Сібір. Менавіта праз сучасныя і атракцыйныя польскамоўныя школы хочуць выратаваць нацыю.

— Высокі ўзровень нашых асветных устаноў гэта адзін спосаб, каб прываблівацъ новых вучняў, — сказала дырэктар польскай школы ў Латвіі Галіна Смулко. — Нам трэба нечым вылучацца, даказваць, што варта ў нас вучыцца, адкрываць перад нашымі вучнямі шырэйшыя магчымасці.

Польшча гарантуе фінансавую падтрымку польскамоўным школам за мяжой. Гэтым абавязанае міністэрства. Менавіта, каб не падтрымка Польшчы адна са школ на Латвіі ўжо была б закрытая. Ідзе пра школу ў Краславе, на мяжы з Беларуссю. Дырэктар школы ў Даўгаўпілсе тлумачыць гэта дэмаграфічным спадам.

— Гэтая тэрыторыя бедная, скажам Латвія „Б”, — тлумачыць. — Таму стуль людзі з’язджаюць ці гэта ў другія мясціны Латвіі, ці проста за мяжу.

У гэтай жа Латвіі існуюць чатыры польскія школы, на Беларусі іх дзве — у Ваўкавыску і Гродне, а на Літве ажно 120! Хаця і тут з году ў год колькасць школ змяншаецца. На Беларусі разглядаецца праект змены польскіх школ у двухмоўныя.

— Самая буйная праблема — гэта пытанне школ нацыянальных меншасцей, — сказаў Андрэй Пачобут. — Ёсць праект змен у Кодэкс аб адукацыі, які прадугледжвае фактычна ліквідацыю школ нацыянальных меншасцей. Гэта будзе тычыцца дзвюх польскіх школ і дзвюх літоўскіх, якія дзейнічаюць у Беларусі. Гэта значыць, што замест іх з’явяцца двухмоўныя школы.

### Каталіцкая вера і Касцёл надалей аб’ядноўваюць палякаў на Усходзе

Установа, якая надалей дапамагае ўтрымаць нацыянальную свядомасць сярод мясцовых палякаў гэта Касцёл. Польскамоўныя літургіі, нядзельныя школы заўсёды былі неад’емнай часткай польскага нацыянальнага жыцця на Літве. Падобную ролю выконвае Касцёл на постсавецкай прасторы, дзе пражываюць палякі. Аднак Андрэй Пачобут зазначыў, што на Беларусі Касцёл праходзіць перыяд беларусізацыі, а гэты працэс нявыгадны польскай меншасці. Калі ідзе пра сітуацыю ў Латвіі нармальным з’яўляецца пачуць у касцёле латвійскую, расійскую ці польскую мову ў Вялікдзень.

> „на Беларусі Касцёл праходзіць перыяд беларусізацыі, а гэты працэс нявыгадны польскай меншасці...

### “Чым больш Польшчы, тым менш Расіі. Чым менш Расіі, тым больш Польшчы”

Польскія меншасці на Усходзе развіваюцца настолькі, наколькі дазваляе ім на гэта палітыка канкрэтнай дзяржавы. Праблемы палякаў на Літве і Беларусі адрозніваюцца ад праблем палякаў у Латвіі. І калі на польскай школе ў Латвіі вісіць польскі сцяг і польскамоўны надпіс, так для палякаў з Беларусі і Літвы цяжка сабе нешта такое ўявіць. Як зазначыла Эдыта Максымовіч, на Літве знішчаюцца любыя акцэнты польскасці.

— Складаецца ўражанне, што пасля 1991 года літоўцы вярнуліся да канфліктаў з міжваеннага перыяду, — тлумачыць журналістка Эдыта Максымовіч. — Гэтая карта (ІІ Рэчы Паспалітай), якая тут сёння вісіць, для нас важная. Паказвае супольную гісторыю, якую літоўцы адкідаюць. Вядома, не ідзе нам пра „праставанне” граніцы, але пра гэта, што многа нас спалучала стагоддзямі.

Эдыта Максымовіч адзначыла таксама, што асобы не з літоўскімі прозвішчамі не маюць магчымасці ўладкавацца на дзяржаўную пасаду. Нягледзячы на гэта ў парламенце Літвы палякі маюць сваіх прадстаўнікоў. Таксама ў раёнах, дзе пражывае польская меншасць і складае большасць жыхароў, яна мае сваіх прадстаўнікоў у органах самакіравання.

На Беларусі прадстаўнікі міністэрства свайго часу адкрыта гаварылі, што меншасці на Беларусі гэта пагроза для дзяржавы. Затое Галіна Смулко падкрэсліла, што не зважаючы на прыязнае стаўленне латышоў да польскай меншасці, палякам у Латвіі трэба пастаянна дзейнічаць, развівацца дзеля таго, каб дзяржава іх падтрымлівала.

### Што прадвызначае нацыянальнасць

На думку Андрэя Пачобута сёння Касцёл не мае ўплыву на польскую меншасць на Беларусі.

— Калісьці сапраўды каталіцкая вера вызначала тое, хто паляк, а хто не, — сказаў Пачобут. — Сёння самае галоўнае гэта выхаванне. Нават не мова. Бо шмат палякаў Беларусі не ведае польскай мовы.

Як тлумачыць Галіна Смулко быць палякам у Латвіі гэта прэстыж.

Гледзячы на праблемы палякаў на Усходзе складаецца ўражанне, што беларусы ў Польшчы маюць падобныя праблемы, прычым не могуць разлічваць на падтрымку з боку беларускай дзяржавы.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

## Юбілей Польскага радыё

У мінулым годзе Польскае радыё адзначала 90-гадовы юбілей. 18 красавіка 1926 года ў 17 гадзін упершыню паплылі ў эфір славутыя словы: *«Halo, halo, tu Polskie Radio Warszawa»*. Гэтым самым пачала свае трансляцыі Першая праграма Польскага радыё. Радыёслухачы ад пачатку існавання Польскага радыё з натхненнем слухалі радыёперадачы. Некаторыя хвалілі, давалі падтрымку, іншыя тэлефанавалі або пісалі і прасілі дапамогі, калі нешта крытычнага прыкмячалі ў сваім жыцці. Ліст такі канчаўся сказам: «Я прашу зачытаць тое, што скажу». Першым на лісты радыёслухачоў адказваў Станіслаў Адынец 24 студзеня 1926 года ў радыёперадачы «Скрынка адказаў».

Вялікую папулярнасць заваявала «Хваля-56», якая заступіла прапагандысцкую «Хвалю-49». У 1957 годзе паступала да яе 140 тысяч лістоў. Памятаю, што перадача пачыналася словамі: «*Увага, увага! Гаворыць Хваля-56*»... І я некалькі разоў пасылаў лісты па адрасе ***Warszawa, Poczta Główna, «Fala 56»***. Сапраўдную папулярнасць заваявала аднак *«Radiowa Lista Przebojów»*, якой перадачы бяруць пачатак з 1968 года. Перадача штомесяц знаходзіла апору ў плебісцыце слухачоў, якія выбіралі свой гіт. Як успамінае Мар’я Шаблоўская, штомесяц на радыё паступалі дзясяткі тысяч лістоў. І трэба было ўсіх іх пералічыць. Займала гэта шмат часу. Я люблю музычную перадачу «Музычныя вандроўкі па краі». Перадача выходзіла ў эфір па суботах у 19 гадзін.

І вось што прыгадалася яшчэ мне з таго часу. Было гэта на пачатку шасцідзясятых гадоў. Стаяла цудоўнае летняе надвор’е. Сонейка падавалася на захад. Я з братухай слухаў пры адкрытым акне «Музычныя вандроўкі па краі». Памятаю, што передавалі песню «Толькі рэха», здаецца, у выкананні Барбары Мушынскай. Нечакана з-за лесу высунулася невялічкая хмарка, якую вокамгненна пранізала маланка. І грымнуў агульнавядомы гром з яснага неба. Сыпнуў дождж, сапраўдны лівень, але кароткачасовы. Калі выйшлі на панадворак, якраз побач хаты вуліцаю праязджаў на фуры Аляксей Місюк. «Ідзіце забраць сяброўку. Гром на полі забіў...» — з сумам кінуў у наш бок. Шпарка рушылі мы на вёску. Сказанае Місюком аказалася праўдай. Ва ўрочышчы «Ракітнае», на полі пад лесам ад маланкі загінула пастушка Оля. Была вучаніцай беластоцкага швейнага тэхнікума і адзінай дачушкай — апрача двух старэйшых братоў — у сям’і Аляксея і Вольгі Саўчукоў. Гэтая падзея па сённяшні дзень захоўваецца ў памяці аднавяскоўцаў.

## У маім садочку

У мінулым годзе ў садочку паміж яблынямі і вішнямі прыкмеціў я некалькі смаржкоў. Памятаю, што калісьці мой пакойны бацька, грыбнік, збіраў іх у лесе, сушыў ды прадаваў на базары ў Варшаве. Вельмі цаніліся яны ў шасцідзясятыя гады. Сёлета шмат высыпалася з другога боку дома пад яблыняй.



Смаржкі з’яўляюцца на зломе сакавіка і красавіка. Гэта першыя ядомыя грыбы. Вырастаюць у цяньку на падсцілцы з кары сасны або яліны, таксама ў іншых месцах, аднак заўжды блізка ліставых дрэў. Можна іх знайсці ў мяшаных ліставых лясах, на будаўнічых участках, у парках, садах, агародах, а нават на сенажацях і ў зарасніках. Смаржкі не патрабуюць урадлівай глебы, адно каб не была забруджанай штучнымі ўгнаеннямі. Вельмі яны смачныя і каштоўныя. За сто грам сухіх грыбоў на скупцы плацяць 200 зл. Трэба аднак памятаць, што ў сырым відзе яны атрутныя.

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Музычная кладка паміж традыцыяй і сучаснасцю


фота Ганны Кандрацюк

— Ці хтось з тваіх сяброў слухае «агулькі» ў смартфоне?

— Не ведаю, здаецца не... — здзіўляецца Наталька Бурак, гімназістка з Орлі.

З «агулькамі» сутыкнулася ўпершыню, дзякуючы тэатральнаму праекту, які прыдумалі іх настаўнікі Альжбета Цюлькевіч, Дар'юш Гарадэцкі і Анна Фіта. З дапамогай прыйшла ім пані Аліцыя Станько з Ласінкі, якая напісала жывы сцэнарый, падпасаваны да маладзёвага ўспрымання свету.

Абрад і песні прыпісаны светламу тыдню — гэта чыстая магія. Праз іх дзяўчаты «выгуквалі» каханага. У гэтым мелі дапамагчы ім душы продкаў, якія ажывалі ў велікодны тыдзень. Якраз да іх і да адроджанай прыроды спявалі песні.

— Гэтыя песні прабудзілі многае ў сэрцы, — кажа Наталька Бурак. — Усе мае родныя, баба, бацькі паходзяць з вёскі і я такая па іх. Яшчэ ў мяне бабуля такая, што застаўляе гаварыць па-свойму.

Наталля родам з Пашкоўшчыны, а яе любімая «агулька» гэта старажытная песня, у якой размаўляюць сонца і месяц — «Там за борам, за ліесом...».

У спектаклі «Светлы тыдзень» на сцэне выступалі Дар'я Кулік, Марта Леанюк, Моніка Жырчук-Жар, Сандра Пятроўская, Якуб Грыгарук, Патрыцыя Паўлючук, Інэс Дзмітрук, Павел Коршак. Усе яны ангажаваліся, разам выпрацавалі файны, жартоўны пераказ.

— Бо мы ўсе з гэтага вырастаем, — кажа Наталька, — таму роднае трэба шанаваць і захаваць для нашых дзяцей...

На сцэне прыгожа прагучалі старажытныя, ахінутыя марамі «агулькі»: «Послала, мэнэ маты...», «Друобна пташэчка...». «Тры месяцы ясны», «Ой, гукну я, гукну...», «Ой за ліесом, зо бором» ды іншыя.

Спектакль пастаўлены на арыгінальнай мове з наваколля Орлі. Як сказала Наталля, ставілі яго з цікавасцю і з вялікімі эмоцыямі. Бо іх задачай было перакінуць кладку паміж традыцыяй і сучаснасцю. Мы ўпэўнены, што «Светлы тыдзень» дапаможа ім зберагчы ў душы часцінку арыгінальнай традыцыі.

Спектакль быў паказаны ў час 34 Конкурсу школьных тэатральных калектываў, які адбыўся 5 красавіка г.г. у беластоцкай сядзібе БГКТ.

*(больш пра агляд і спектаклі ў наступных нумарах)*

**Зорка**


фота Міры Лукшы

Сргей Новік-Пяюн

## На Вялікдзень

Голасам магутным загрымелі звоны
Па блакітным небе ў блеску сонца кос.
Палілісь ўрачыста радасныя тоны,
Бо Хрыстос памершы ў трэці дзень уваскрос.
Вецярок вясняны з радасці спявае.
Птушак пералівы ймкнуцца ў вышыню,
А вясна на ліры гімн Хрысту іграе,
Гожа прыбірае краскамі зямлю.
І ты, людскі родзе, ранамі Хрыстовымі
Збаўлены ад грэху, зрок ўзнясі увысь!
Удзячнаю малітваю добраму Ісусу
Сэрцам і душою горача маліс!
Голасам магутным грымяць сяння звоны
Па блакітным небе, ў блеску сонца кос,
Льюцца урачыста радасныя тоны,
Бо Хрыстос, наш Збаўца,
ў трэці дзень ўваскрос!

## УВАГА КОНКУРС! № 16-17

**Каля ціхае крыніцы**
**Збудаваны дом з іглiцы.**
**Можа вам знаёмы ён?**
**Жыхароў у ім мільён.**
**Тут шчыруюць усе чыста —**
**Вось чаму навокал чыста.**
**М......**

**(У. Мацвеенка)**

**Разгадайце загадку, адказы дашліце ў „Зорку” да 30 красавіка 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 12-17: вясна (беручы пад увагу тое, што не паспяваеце дасласць адказы на час, яшчэ раз спынімся пры загадцы № 12. Узнагароды, кніжкі Міры Лукшы «Падарункі» з аўтографам, выйгралі Якуб Галёнка, Бартэк Місяюк і Юлія Клімчук з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!**

# Гэты поспех для мяне важны



— Я беларускую мову люблю вельмі моцна, а дзякуючы конкурсу люблю яшчэ больш, — кажа Міколка Здрайкоўсі.

Колюсь, бо так кажуць пра яго сябры, лаўрэат прадметнага конкурсу па беларускай мове. Ужо другі раз запар ён набраў найбольшую колькасць балаў, ажно 74 на 75 магчымых. А трэба дадаць, што ён — вучань пятага класа беластоцкай «чацвёркі».

— Для мяне самы цяжкі быў першы, школьны этап, — кажа наш першы лаўрэат. — Пасля было толькі лягчэй.

З яго школы прыступіла да конкурсу ажно 11 вучняў. І толькі дзве асобы сталі лаўрэатамі — ён і Юля Баравік.

— Для мяне магло б быць і больш лаўрэатаў, — заяўляе па-сяброўску пятакласнік.

Цягам апошніх месяцаў у школах толькі і гаварылі пра рэзкі адбор удзельнікаў конкурсу і невялічкую колькасць лаўрэатаў. Гэта агульная з'ява, якая датычыць усіх прадметаў. Калі гаварыць пра беларускую мову, тут прыстойны лік, бо ажно 12 лаўрэатаў. А вось па інфарматыцы з цэлага Падляшша было толькі 5 лаўрэатаў, усе хлопцы. Дзіўнае ўражанне зрабілі таксама лаўрэаты па гісторыі. Іх было толькі 14 і ўсе хлопцы! Найбольш, бо ажно за паўсотні, лаўрэатаў па англійскай мове.

У час урачыстага падвядзення вынікаў, якое адбылося 21 сакавіка г.г. у Ваяводскай управе, былі названы ды ўзнагароджаны шматразовыя лаўрэаты. На першым месцы апынулася Мая Карвоўская з Ломжы, якая заваявала званне лаўрэата па чатырох прадметах. З прыемнасцю адзначым, што сярод сціплай колькасці шматразовых лаўрэатаў апынуліся нашы сяброўкі: Алеся Буткевіч і Оля Паўлючук з праваслаўнай школы ды Аня Радзівончык з Нараўкі.

— У гэтым годзе было цяжэй, чым у папярэдніх гадах, — кажа настаўніца Валянціна Бабулевіч, якая прывезла пяць лаўрэатаў з бельскай «тройкі.». Гэта ўвесь гонар школы: — Яшчэ ніколі так не было, што ў пачатковай школе няма лаўрэатаў па іншых прадметах — прыкмячае настаўніца. Валянціна Бабулевіч можа ганарыцца незвычайным поспехам. З-пад яе рукі выйшла трох лаўрэатаў у пачатковай школе і чатырох у гімназіі, разам сем, падмацаваных і шчаслівых навучэнцаў. У бельскай «тройцы» найбольш балаў набраў Ілья Фіёнік, які быў лаўрэатам таксама ў мінулым годзе.

— Я прыступіў да конкурсу, каб больш даведацца пра гісторыю і літаратуру Беларусі, — кажа Ілья. — Мяне вельмі зацікавіла асоба Еўфрасінні Полацкай. Цяпер буду збіраць і чытаць пра яе ўсе творы.

Конкурс здзейсніў яшчэ адну важную задачу:

— Гэты поспех для мяне важны, — кажа на прыгожай беларускай мове сябра, — зараз я адчуваю сябе мацнейшым.

На падвядзенні вынікаў пабываў мастак Міраслаў Здрайкоўскі, бацька нашага першага лаўрэата Міколкі. Ён не хаваў узрушанасці:

— Я не думаў, што тут будзе так урачыста. Я шчаслівы, што ў гэтай зале з такімі вучнямі ёсць мой сын. Што значыць для мяне поспех сына па беларускай мове? Гэты поспех яшчэ важнейшы, бо ён па роднай мове. А ў штодзённым жыцці мы стараемся перадаць любоў і зацікавіць сыноў беларускай мовай і традыцыямі. Я шчаслівы, што яны з ахвотай ходзяць на ўрокі беларускай мовы, спяваюць, дэкламуюць вершы і нават танцуюць. Вядома, мы як бацькі робім шмат, але тут важная праца настаўніцы Аліны Ваўранюк. Сярод настаўнікаў які падрыхтавалі лаўрэатаў апынуліся яшчэ: Іаанна Марко З НПШ св.св. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Людміла Грыгарук з гайнаўскай «шасцёркі», Анна Кандрацюк з Нараўкі, Міраслава Маркевіч і Марта Ігнатовіч з бельскай «тройкі».

*Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК*

## Вершы Віктара Шведа



### Разважанні вучня

Малы вучань Коля<br>
Пачаў разважаць:<br>
— Раней вучылі ў школе<br>
Пісаць і чытаць.

А цяпер, вядома,<br>
Сталі правяраць,<br>
Ці навучылі дома<br>
Чытаць і пісаць.

### Адчай настаўніцы

Настаўніца сварыць Адама:<br>
— Просьбу да цябе маю,<br>
Прыйдзі заўтра з бацькамі,<br>
З імі паразмаўляю.

Я ўжо не маю сілы,<br>
Кожны дзянёк труднейшы.<br>
Цэлы клас гэта дэбілы,<br>
А ты — найдурнейшы.

# Дзеці з польскага садка любяць літарку «ж»!

Гімназісты з беластоцкай «сямёркі» сустрэліся з дашкольнікамі ў польскім садку. Так, так — у польскім! Менавіта для дзетак, якія магчыма ніколі не сустрэліся з беларускай мовай, прачыталі яны казку і паказалі літары беларускага алфавіта. І ведаеце, гэтая сустрэча даказала, што сапраўды людзі захапляюцца нашай роднай мовай, якая нам звычайная і часам мала прывабная. Пяцігодкі з цікавасцю прыглядаліся літаркам і здзіўляліся іх кшталтам. Калі ўжо ўсе пабачылі невядомыя ім знакі, настаўніца Гімназіі № 7 Альжбета Руткоўская абвясціла конкурс на самую прыгожую літарку беларускага алфавіта. І што аказалася? Перамагла літара «ж» — на думку дзяцей яна найбольш пакручаная і нагадвае жука або павука. Добрыя асацыяцыі мелі дашкольнікі з беларускімі словамі. Зачытаная гімназісткай Клаўдзіяй казка «Курка-шчабятуха» ўвяла ў садок вясёлую атмасферу. Напрыклад, слова «чарапіца», якое паяўляецца ў казцы, дашкольнікам асацыявалася са словам «піца». Было яшчэ многа такіх прыколаў, якія толькі ўзбудзілі ў пяцігодках цікавасць да беларускай мовы. На самой справе мы, як беларусы, з'яўляемся найбольшай нацыянальнай меншасцю на Падляшшы. Таму ад новага навучальнага года нашу мову будзе можна пачуць не толькі ў беларускіх школах, але таксама і ў польскіх. На думку ўсіх мудрых людзей, якія вырашаюць аб праграме навучання ва ўсіх школах у Польшчы, нават і польскія дзеткі павінны ведаць мову меншасці свайго рэгіёна. Магчыма, вас таксама запросяць у польскі садок ці школу, каб лепш зразумець і навучыцца нечага ад беларусаў. А мы можам паганарыцца напрыклад літаркай «ж»!

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

# Польска-беларуская крыжаванка № 16-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 12-17:**

Прас, люкс, гідра, варона, карона, дата, Яна, смак, рукаў. Шпак, вада, падарак, рот, гонар, сліна, Юда, як, акр, на, састаў.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Якуб Аўярчук** з Арэшкава, **Наталля Таранта, Юля Садоўская, Вікторыя Гаць** з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Юстына Астапковіч** з КШ № 1 у Гайнаўцы, **Марта Петручук** з Нарвы, **Наталля Алексяюк** з Міхалова, **Аляксандра Раманюк, Зося Саковіч, Адрыян Максімюк** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!



# Максім Гарэцкі і Васіль Петручук

## у Алімпіядзе беларускай мовы

Вядучай тэмай XXII Алімпіяды беларускай мовы было „Жыццё і творчасць Максіма Гарэцкага і Васіля Петручука на падставе аповесці «Ціхая плынь» і кніжкі «Пожня»". Дзве прапановы для сачынення падчас цэнтральных спаборніцтваў беларускай алімпіяды, якія 23 сакавіка адбыліся ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім, тычыліся якраз згаданых твораў Гарэцкага і Петручука, а пытанні па іх творчасці былі таксама на білетах для вусных адказаў. Сёлета менш вучняў прыступіла да алімпіяды па роднай мове. У фінал конкурсу перайшло толькі 13 белліцэістаў, а лаўрэатамі маглі стаць не больш за двух удзельнікаў цэнтральных спаборніцтваў.



— Мы рашыліся вядучай тэмай алімпіяды запрапанаваць творчасць аднаго з «белавежцаў», Васіля Петручука, і класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага, якія ў сваіх творах далі аб'ектыўны вобраз жыцця беларускай вёскі на Падляшшы і ва Усходняй Магілёўшчыне, — заявіў старшыня Галоўнага камітэта Алімпіяды беларускай мовы ў Польшчы прафесар Мікола Хаўстовіч і заадно старшыня адной з дзвюх камісій, якія прымалі вусныя адказы.





Удзельнікі алімпіяды. Справа стаіць яе пераможца Анна Бяляўская

Вучням спадабаліся аповесці «Ціхая плынь» Максіма Гарэцкага і «Пожня» Васіля Петручука. Цікава ім было прачытаць пра вёску ва Усходняй Беларусі, паказаную ў больш адлеглым часе, і пра вёску роднага Падляшша. Белліцэісты знайшлі аўтабіяграфічныя моманты ў згаданых творах. Іх увагу прыцягнулі псіхалагічныя партрэты герояў твораў абодвух пісьменнікаў. Падчас пісьмовага экзамену белліцэісты пісалі сачыненні на адну з трох тэм: 1) Падабенства і адметнасць малюнкаў сялянскага жыцця ў аповесці «Ціхая плынь» Максіма Гарэцкага і аповесці «Пожня» Васіля Петручука; 2) Маральна-этычная праблематыка ў аповесці «Ціхая плынь» Максіма Гарэцкага і аповесці «Пожня» Васіля Петручука; 3) «Калі б з душы прагналі рэнегацтва...» (Алесь Барскі): «белавежцы» пра праблемы беларускага нацыянальнага жыцця на Беласточчыне.

Вучні аддалі перавагу двум першым тэмам, паколькі тычыліся яны вядучай тэмы алімпіяды, па якой рыхтаваліся да напісання пісьмовай творчай працы.

— Падабаецца нам творчасць «белавежцаў» і па ёй мы рыхтаваліся да вусных адказаў, але апасаліся, што калі б рашыліся пісаць сачыненне па трэцяй тэме, наша праца атрымалася б горшай, чым сачыненне па творах Петручука і Гарэцкага, — гаварылі белліцэісты.

— Нам асабліва блізкая творчасць Васіля Петручука, які нарадзіўся ў 1926 годзе ў вёсцы Грабавец і, будучы хлапчуком, падзарабляў у суседніх вёсках Тафілаўцы і Елянка, распаложаных на Гайнаўшчыне. Максім Гарэцкі гэта класік беларускай літаратуры. Апісваў ён беларускую вёску ў цэлым. Яго творчасць таксама цікавая, — сказалі гайнаўскія белліцэісты.

— Мы ведалі, што будзем пісаць па творах Васіля Петручука і Максіма Гарэцкага, але камісія будзе ацэньваць спосаб выказвання і пэўна звяртаць увагу на памылкі і таму зараз складана сказаць, як мы справіліся з сачыненнямі. Пераклад на беларускую мову не быў складаным, паколькі мы ведаем біяграфію Еўфрасінні Полацкай. Аднак мы маглі зрабіць памылкі ў граматычным тэсце і многа будзе залежаць ад вусных адказаў, — гаварылі гайнаўскія белліцэісткі Пауліна Анішчук, Гражына Фірс і Дамініка Пуц.

Размаўляў я таксама з іншымі гайнаўскімі белліцэістамі — Анай Бяляўскай, Лукашом Леўчуком, Юліяй Бяганскай, Эміліяй Масальскай і Агатай Бярэзняк. Усе яны пісалі сачыненні па творах Васіля Петручука і Максіма Гарэцкага. Змагаючыся з граматычным тэстам, вучням трэба было скласці сказы з выкарыстаннем прапанаваных слоў, дапасоўваючы іх граматычную форму. Ад прыведзеных дзеясловаў ліцэісты ўтваралі форму загаднага ладу. Белліцэісты складалі сказы з фразеалагізмамі, абазначалі адпаведныя варыянты слоў да запрапанаваных сказаў у закрытым пытанні, словы і словазлучэнні ў дужках перакладалі з польскай мовы на беларускую і ўпісвалі ў сказы ў адпаведнай граматычнай форме. Апошнюю задачу рабілі на падставе фрагмента артыкула Уршулі Шубзды, надрукаванага ў нашым тыднёвіку «Ніва». Найбольш балаў у тэсце вучні маглі здабыць падчас перакладу часткі біяграфіі Еўфрасінні Полацкай з польскай мовы на беларускую.

— Нашы вучні добра ведаюць галоўныя моманты жыцця Еўфрасінні Полацкай і таму пераклад не выклікаў асаблівых складанасцей. Тым вучням, якія лепш ведаюць беларускую мову, лягчэй было справіцца з цэлым граматычным тэстам, — сказала настаўніца беларускай мовы Бельскага белліцэя Анна Бжазоўская.

Белліцэісты гаварылі, што задачы ў граматычным тэсце былі зразумелымі. Пасля абеду распачаліся вусныя адказы. Белліцэісты выцягвалі па адным білеце, на якім былі тры пытанні, і адказвалі паводле выбранай імі адной тэмы.

— Рыхтуючыся да вусных адказаў мы перш за ўсё аналізавалі многа тэм па беларускай літаратуры розных перыядаў, па беларускай культуры і традыцыях, вучыліся расказваць аб жыцці беларусаў Беласточчыны, аб арганізаваных у нас беларускіх мерапрыемствах, дзейнасці беларускіх арганізацый, беларускіх сродках масавай інфармацыі і аб іншых баках нашага жыцця, — сказалі Вераніка Кардзюкевіч і Іаанна Кобус з Бельскага белліцэя.

Маім суразмоўцам з абодвух белліцэяў не прыйшлося распавядаць па малавядомых ім тэмах. Некаторым трапілася тэма, па якой маглі распавядаць доўга і змястоўна, пакуль члены камісіі не перарвалі ім аповед. Белліцэісты сказалі, што яны свядомыя значэння атрымання звання лаўрэата або фіналіста Алімпіяды беларускай мовы. Ад гэтага ў іх ёсць прывілеі не толькі на матуральным экзамене, але таксама пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Там на паасобныя спецыяльнасці пераможцы нашай алімпіяды прымаюцца па-за конкурсам, калі, канешне, станоўча справяцца з матуральнымі экзаменамі хаця б на падставовым узроўні.

— Лаўрэаты, а ў некаторых выпадках нават фіналісты Алімпіяды беларускай мовы надалей прымаюцца па-за конкурсам на асобныя гуманітарныя спецыяльнасці Варшаўскага ўніверсітэта, Вармінска-Мазурскага ўніверсітэта ў Ольштыне і таксама на пэўныя спецыяльнасці на Каталіцкім люблінскім універсітэце. Ёсць таксама спецыяльнасці ў Політэхнічным інстытуце ў Жэшаве, куды пераможцы нашай алімпіяды прымаюцца па-за традыцыйным наборам. Раней Універсітэт у Беластоку прымаў па-за конкурсам нашых лаўрэатаў і фіналістаў толькі на беларускую філалогію, але цяпер пашырыў сваю прапанову. Гэта мяняецца і пераможцы беларускай алімпіяды павінны самі спраўджваць, у якія навучальныя ўстановы і на якія спецыяльнасці могуць яны паступіць па-за конкурсам. Зразумела, што фіналісты нашай алімпіяды вызваляюцца ад цэлага матуральнага экзамену па беларускай мове і атрымліваюць максімальную колькасць балаў магчымых для здабыцця на гэтым экзамене. Частка вучняў, якія становяцца пераможцамі алімпіяды, рашаецца на індывідуальны шлях навучання па беларускай мове. Не ходзяць тады яны на заняткі, а прыступаюць да кваліфікацыйнага экзамену па беларускай мове, — паведаміў настаўнік беларускай мовы Гайнаўскага белліцэя Янка Карчэўскі, які здаўна сочыць за прапановамі вышэйшых навучальных устаноў для пераможцаў нашай алімпіяды.

Старшыня Галоўнага камітэта Алімпіяды беларускай мовы прафесар Мікола Хаўстовіч сказаў, што яго камітэт робіць захады, каб Алімпіяду па беларускай мове зрабіць яшчэ больш прэстыжнай і заахвоціць яшчэ больш ліцэістаў да ўдзелу ў ёй.

— Калі б я дабілася поспехаў на цэнтральным узроўні алімпіяды, то не буду пераходзіць на індывідуальны шлях навучання па беларускай мове. Мне цікава будзе знаёміцца на ўроках з роднай літаратурай, культурай і ўдасканальваць свае ўмеласці па беларускай мове, — сказала Анна Бяляўская, вучаніца другога класа Гайнаўскага белліцэя.

Пасля праверкі ў Варшаве пісьмовых прац і падліку ўсіх цэнтральных спаборніцтваў аказалася, што менавіта Анна Бяляўская стала лаўрэатам першага месца Алімпіяды па беларускай мове, набіраючы ажно 185 балаў. Апярэдзіла яна лаўрэата другога месца, першакласніцу Бельскага белліцэя Вераніку Кардзюкевіч, якая набрала 182 балы. На трэцім месцы апынуўся Барташ Васілюк (176 балаў), на чацвёртым — Пауліна Анішчук (165), на пятым — Эмілія Масальская (165), на шостым — Радаслаў Саковіч (156) — усе яны з'яўляюцца вучнямі Гайнаўскага белліцэя. Іаанна Кобус з Бельскага белліцэя набрала 155 балаў і заняла сёмае месца. Фіналістамі сталі таксама іншыя гайнаўскія белліцэісты — Агата Бярэзняк, Дамініка Пуц, Юлія Бяганская, Лукаш Ляўчук, Гражына Фірс і Беата Красько.

— Некаторыя ліцэісты вельмі добра справіліся з вуснымі адказамі, а іншыя крыху горш. Раней вучні беластоцкіх ліцэяў, якія вучацца там беларускай мове, станавіліся лаўрэатамі і фіналістамі нашай алімпіяды. У гэтым годзе ліцэісты з Беластока не прыступілі да алімпіяды, паколькі там лепшыя вучні, што ходзяць на заняткі па беларускай мове, дабіваліся ўжо поспехаў на Алімпіядзе беларускай мовы, — сказала член ацэньваючай камісіі Вольга Трацяк з Кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Янка Пазьняк — калі нарадзіўся?





■ Сямейны здымак Янкі Пазняка (злева), побач дачка Галіна, жонка Марыя, муж яе сястры Феліцы з дзяцьмі. Стаяць (злева) сястра Марыі Ядвіга з мужам Станіславам Болтуцям і сястра Марыі Феліцыя



■ Здымак рэдакцыі Беларускай Крыніцы (злева) Язэп Найдзюк, Уладыслаў Тарасевіч, Мар'ян Пецюкевіч, Ян Пазняк

У „Даце з календара" Уладзіміра Хільмановіча ў „Ніве" ад 19 лютага прадстаўлены „адзін з заснавальнікаў БХД" Янка Пазьняк. „З нагоды 130 гадоў з дня нараджэння Яна Пазьняка" — такі загаловак здаваўся б на месцы, калі б сапраўды так было. Не ведаю адкуль аўтар аўтарытэтна сцвердзіў, што Ян Пазьняк нарадзіўся 19 лютага 1887 г. Праўда, пазначыў у дужках, што паводле іншых звестак у 1895 ці 1897 г. Такая ж дата ставіцца таксама і ў іншых даведніках, якімі, мабыць, і карыстаўся Уладзімір Хільмановіч, уключна з польска- і беларускамоўнай „Вікіпедыяй". На інтэрнэт-старонцы Хартыі-97 таксама 19 лютага паявіўся ньюс: „130 гадоў таму назад нарадзіўся лідар БХД Ян Пазьняк" — без ніякіх сумненняў. Паглядзела я ў іншыя выданні энцыклапедычнага характару. І так у выданні „Беларускія пісьменнікі. Біябліяграфічны слоўнік" (т. 4, Мінск 1994, с. 431) падаецца, што нарадзіўся ў 1887 г. у Суботніках, у „Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (т. 5, Мінск 1999, с. 377) — тое ж самае.

Першы наогул тэкст пра Янку Пазьняка напісаў ягоны ўнук Зянон Пазьняк у 1990 г. у „Навінах БНФ" (ад 20 студзеня) — „Ян Пазьняк (1897-1939) і Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя". У ім аўтар не згадвае даты народзінаў дзеда, магчыма яна яму не была на той час вядомая. Чаму аднак у загалоўку паявіўся 1897 год нараджэння? У даведніку „Беларуская рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя" (Мінск — Мюнхен 1999, с. 136) падаецца дата 19 лютага 1895 г. Згадваецца таксама, што па іншых крыніцах нарадзіўся ў 1887 г.

Вырашыла я зазірнуць у свае архіўныя запіскі. Справа ў тым, што Янка Пазьняк, выдаючы з 1928 г. „Беларускую Крыніцу", шмат разоў падпадаў пад судовую адказнасць за яе змест. Зянон Пазьняк пісаў, што над ягоным дзедам ад пачатку 1936 г. вісела 35 судовых спраў. Не ведаю, ці столькі дакладна, бо ў іншым месцы падаецца, што трыццаць. Можна аднак сёння гэта ўстанавіць дакладна на аснове судовых дакументаў, якія захоўваюцца ў Літоўскім цэнтральным дзяржаўным архіве. У іх можна таксама знайсці дату народзінаў. 20 сакавіка 1935 г. пробашч рымска-каталіцкага касцёла ў Суботніках паведамляў пастарунак дзяржаўнай паліцыі ў Суботніках: „Niniejszym powiadamia się, że Poźniak Jan, syn Aleksandra i Anny z Tuczkowskich urodził się 1895 r. lutego 19 w Sobotnikach..." (F. 129, Ap. 2, B. 15, l. 12). „Jan Poźniak posiada 6,5 dziesięcin gruntu w Sobotnikach. Co zaś tyczy się opinji Jana Poźniaka, to takowy pod względem kryminalnym na tutejszym terenie cieszy się opinją dobrą, zaś pod względem politycznym ujemną, ponieważ takowy uchodzi na tutejszym terenie za bardzo zawziętego Białorusina i należącego do Chrześcijańskiej Demokracji Białoruskiej", — пісаў 20 сакавіка 1936 г. да каменданта дзяржаўнай паліцыі ў Вільні камендант участка (пастарунку) у Суботніках В. Травіньскі.

У 1929 г. у адной з судовых спраў супраць Яна Пазьняка падавалася, што яму 34 гады, католік, жанаты, мае трое дзяцей, па прафесіі арганіст. Не разумею пра якіх „шмат дзяцей" пісаў Уладзімір Хільмановіч. Былі ў яго: Станіслаў (бацька Зянона Пазьняка, нар. у 1922 г. у Суботніках), Галіна (нар. 14 студзеня 1923 г. у Суботніках) і Ян (нар. 19 сакавіка 1925 г. у Суботніках). Мне прыйшлося пашукаць сям'ю Янкі Пазьняка пры нагодзе апрацоўкі лістоў Мар'яна Пецюкевіча ў 2005 г. У адным з пісьмаў паявілася інфармацыя пра Марыю Пазьнячыху, жонку Яна і пра іхнюю дачку Галіну. Ужо не памятаю, як удалося знайсці мне ў Варшаве ўнука Яна Пазьняка — Тамаша Маркевіча. Але гэта не было так проста. Расказаў ён пра сваю бабулю і маму.

Марыя, з дому Мікша, нарадзілася 26 красавіка 1899 г. у Суботніках. У Вільні ў міжваенны час гадавала дзяцей. Пасля вайны працавала ў ахове здароўя ў шпіталі ў Суботніках. У 1958 г. пераехала да дачкі ў Польшчу — тая якраз чакала нараджэння сына. Жыла ў Атвоцку, дзе і памерла 8 снежня 1988 г. Галіна Пазьнячанка раней пераехала ў Польшчу — у 1945 г. у Лодзь. Там закончыла медыцынскую школу і ў 1951 г. атрымала накіраванне на працу ў Варшаву, а пасля ў Атвоцк. Працавала медсястрой у ахове здароўя. Памерла ў Атвоцку 1 студзеня 2002 г.

У 1982 г. на просьбу Мар'яна Пецюкевіча іх адрас адшукаў Юры Туронак. Пецюкевіча прасіў знайсці Пазьнякоў Язэп Малецкі з Аўстраліі. Абавязаны ён быў ім у шмат чым яшчэ з міжваеннага перыяду. Калі Язэп Малецкі з дапамогай сяброў з Польшчы знайшоў Марыю Пазьнячыху, пачаў прысылаць ёй падаркі з Аўстраліі. Тады ў хаце ў Атвоцку загаварылі пра яго. Сярод аповедаў бабулі Тамаш Маркевіч запамятаў гісторыю, як дзед Янка аднойчы прывёў з вуліцы двух маладых бедных хлапцоў у сваю хату, даў ім прытулак (раскватараванне) і харчаванне. Адным з іх быў Язэп Малецкі. Прозвішча другога Тамаш не памятае.

Пры нагодзе варта згадаць, што Янка Пазьняк так і застаўся ў цяні іншых дзеячаў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, асабліва кс. Адама Станкевіча. Яго прафесія арганіста ў касцёле ў Лаварышках, дзе пробашчам быў кс. Ян Семашкевіч, а пасля ў касцёле св. Яна ў Вільні не карысталася такой папулярнасцю, як хаця б быццё дэпутатам польскага Сейма. Таксама выдавецкая і публіцыстычная дзейнасць, якой займаўся Ян Пазьняк, не давала вялікай вядомасці, хаця была яна фундаментам беларускай нацыянальнай свядомасці ў Заходняй Беларусі. Арышт яго ў кастрычніку 1939 г. і невядомае месца смерці і пахавання многія гады турбавалі выключна сям'ю — жонку і дачку, якія так і не дабіліся пры жыцці ніякіх звестак пра яго. Не ведаю, ці нечага пра апошнія гады і дні жыцця дзеда даведаўся яго ўнук Зянон Пазьняк, будучы дэпутатам беларускага парламента.

Гартаючы міжваенную беларускую прэсу, можна шмат чаго даведацца пра Янку Пазьняка. Бібліяграфію яго публіцыстыкі змясціла ў біябліяграфічным даведніку „Беларускія пісьменнікі" (т. 4, Мінск 1994) Ірына Багдановіч. Нядаўна гартаючы „Сялянскую Ніву" натрапіла я на кандыдатаў БХД у Сейм перад выбарамі ў 1930 г. Сярод іх быў і Янка Пазьняк, які адрэкамендаваны там наступным чынам: „Пазьняк Янка — шырока вядомы беларускі дзеяч, на ніве беларускай вытрывала працуе ад 1917 г., у Вялейскім пав. арганізуе моладзь, закладае аматарскі беларускі тэатр, вучыў у Будслаўскай беларускай гімназіі. Ад 1919 г. працуе ў Ашмянскім пав., польскія ўлады яго арыштавалі і трымалі пад надзорам жандармэрыі 8 месяцаў. Ад 1925 г. пачынае беларускую народную працу ў пав. Віленска-Троцкім, асабліва ў гмінным самаўрадзе Міцкунскай гміны — ганаровы грамадзянін гміны, ад 1928 г. прабывае ў Вільні, дзе спаўняе абавязкі рэдактара „Беларускай Крыніцы". Як знаўца самаўрадаў напісаў пабеларуску брашуру аб гмінных самаўрадах" (*Нашыя першыя кандыдаты сьпіску нумар 18*, „Сялянская Ніва", № 3, 20.05.1930 г., с. 1). Вядома, што ў тых выбарах ніводзін з беларускіх дзеячаў не ўвайшоў у Сейм. Толькі з украінскага спіска ўдалося гэта Фабіяну Ярэмічу. Беларускім дзеячам заставалася дзейнасць на нізах, чым і займаўся Янка Пазьняк з паплечнікамі. Менавіта ў першай палавіне 30-х гадоў шмат разоў перад судом адказваў за змест „Беларускай Крыніцы".

Тамашу Маркевічу ў спадчыну ад дзеда дастаўся сямейны альбом, у якім шмат здымкаў з вядомымі беларускімі дзеячамі, частку якіх прапаную чытачам „Нівы".

❖ **Лена ГЛАГОЎСКАЯ**

**PS.** Спрабавала я высветліць яшчэ адрасы Яна Пазьняка ў Вільні з 1928 г. — гэта ў сувязі з тым, што быццам бы жыў ён у Вільні ў „старым доме Скарынавага фундатара бургамістра Якуба Бабіча. Менавіта ў гэтым доме жандары арыштавалі Кастуся Каліноўскага, а пазней там месцілася друкарня Марціна Кухты, жыў у ім таксама Янка Купала" — напісаў Уладзімір Хільмановіч. Узяла я даведнік Лявона Луцкевіча „Вандроўкі па Вільні" (Вільня 1998) і пачала шукаць тых мясцін. Дом, дзе быў арыштаваны Кастусь Каліноўскі, гэта так званы „гімназіяльны дом" пры Замкавай вуліцы (цяпер Пілес 19), які непасрэдна прымыкае да касцёла св. Яна. Друкарня Марціна Кухты мела два адрасы: у 1906-1911 гг. месцілася на Дварцовай (зараз Унівэрсітэто 4), а ў 1911-1915 гг. — на Татарскай (зараз Тотор'ю 20). Янка Купала ў Вільні жыў у 1908-1909 гг. на вуліцы Старой (зараз Трэнётос 5), а ў 1914-1915 гг., калі быў рэдактарам „Нашай Нівы", жыў праўдападобна пры рэдакцыі на вуліцы Віленскай 29 (зараз Вільнаўс 14). Той жа дом бургамістра Якуба Бабіча знаходзіўся ў панадворку на вуліцы Вялікай (зараз Дзіджой 19). Дзе ж тады жыў Янка Пазьняк? Паводле Тамаша Маркевіча і Лявона Луцкевіча жыў ён на вуліцы Людвісарскай (зараз Лейыклёс 1). Лявон Луцкевіч пісаў: „У вялікім доме на трэцім паверсе зь левага боку відаць вокны кватэры, якую да вайны займаў зь сям'ёй Янка Пазьняк" (с. 123). Зянон Пазьняк таксама з сентыментам пісаў пра гэтае месца ў 1990 г.: „Прыйшоў на былую Людвісарскую ў цэнтры старой Вільні і сеў пад вярбой насупраць мураванага дому, дзе некалі да вайны жыў мой дзед, бабуля, мой бацька" (цыт. за Л. Луцкевічам, с. 124). Там Янка Пазьняк праўдападобна жыў у 1928-1935 гг. З 1926 г. пад гэтым адрасам знаходзілася Беларуская друкарня імя Францішка Скарыны. Язэп Найдзюк пісаў, што ўласнікамі дома пры Людвісарскай 1 былі стараверы. Друкарня змяшчалася ў невялікай дабудоўцы да яго з адным паверхам (С. Цыпрыяновіч, *Беларуская друкарня імя Францішка Скарыны ў Вільні (1926-1940)*, Лёндан 1991, с. 6). Там і выдавалася „Беларуская Крыніца", якую рэдагаваў Янка Пазьняк з 1928 г. Друкарня з 1930 г. (?) была пераведзена на вуліцу Завальную 6-10, „у вялікі жыдоўскі дом" (С. Цыпрыяновіч, с. 11), а з лета 1934 г. — на Завальную 1 — у дом Рэфармаванай Эвангеліцкай Кансісторыі. Як пісаў Язэп Найдзюк, „побач друкарні меў кватэру рэдактар „Беларускай Крыніцы" Янка Пазьняк" (с. 12). Былы супрацоўнік друкарні Янка Багдановіч у сваіх успамінах падае 1936 г. як год пераносінаў друкарні на вуліцу Завальную 1 (Я. Багдановіч, *На жыццёвым шляху*, Мінск 1992, с. 98). „У гэтым доме нават і рэдактар Пазьняк знайшоў куток для сваёй сямейкі" (с. 98) — пісаў Янка Багдановіч. Калі дакладна пад гэтым адрасам жыў Янка Пазьняк зараз адназначна цяжка ўстанавіць. У альбоме захаваўся здымак з 1938 г. з адрасам: вуліца Канарскага 29-9. Такі сам адрас знаходзіцца таксама ў дакументах Літоўскага цэнтральнага дзяржаўнага архіва ў Вільні (F. 905, Ap. 1, B. 100-101) пры прашэннях Янкі Пазьняка з 1939 г. прыняць яго дачку Галіну і сына Яна ў Віленскую беларускую гімназію. З гэтага ж адраса пэўна ж і арыштоўвалі Янку Пазьняка. Ніводнае з гэтых месцаў, дзе жыў Янка Пазьняк, не пазначана. Лявон Луцкевіч паказаў на карце Вільні адно дом на Людвісарскай, у якім жыў Янка Пазьняк. Як на іронію лёсу на гэтым доме 2 кастрычніка 2000 г. Тамас Вэнцлова, Чэслаў Мілаш, Віслава Шымборская і Гюнтар Грас у прысутнасці прэзідэнта Літвы Валдаса Адамкуса адкрылі табліцу ў гонар Іосіфа Бродскага, які з 1966 г. бываў у Вільні і затрымліваўся ў гэтым доме ў кватэры Рамунаса Каціпюса. А прысутнасць і актыўная беларуская дзейнасць Янкі Пазьняка ў Вільні сапраўды дасюль ніяк не ўшанавана, хаця шмат каму там з беларускіх дзеячаў вісяць табліцы. Можа варта над такой ідэяй падумаць, чакаючы сапраўдных 130-х угодкаў нараджэння выдатнага беларускага дзеяча, які таксама пасля смерці Альбіна Стэповіча (18.12.1934 г.) кіраваў беларускім хорам пры касцёле св. Мікалая ў Вільні.

Новае выданне

# Грак — птушка вольная...




У Беластоку ў бібліятэцы Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа” выйшла з друку кніга беларускай паэткі і журналісткі Міры Лукшы „Гражынка і Грак”. Кніга адрасавана дзецям, хаця яна будзе цікава і дарослым чытачам.

Міра Лукша далёка не навічок, які піша для дзяцей. Яна ўжо выдала дзве вартыя чытання арыгінальныя кніжкі „Дзяўчынка і хмарка”, „Жывінкі з глыбінкі”. Новае выданне не менш забаўляльнае і карыснае за ранейшыя. Гэту кніжку варта чытаць дзецям услых, каб правільна навучыцца вымаўляць усе літары беларускага алфавіта, асабліва словы на літару Р. Міра Лукша ў сваёй новай кнізе выступае не толькі як аўтар мастацкага выдання, але і як сапраўдны лагапед. Тыя дзеткі, якія дрэнна вымаўляюць літару Р, прачытаўшы ўсю кнігу пісьменніцы, навучацца гэта рабіць правільна, і вымаўляць літару Р яны будуць так, як дарослыя. У кожным маленькім апавяданні пра Гражынку і Грака шмат розных слоў з літарай Р. Гэтыя словы самыя разнастайныя, з рознымі значэннямі, параўнаннямі, эпітэтамі. Іх настолькі шмат, што здаецца — гэта не проста кніга, а падручнік для лагапедаў і бацькоў. З першай і да апошняй старонкі кнігі слоў на літару Р вельмі многа. Але гэтыя словы не шкодзяць апавяданням, не надакучваюць яны і тады, калі чытаецца кніга. Нават у назве яе ёсць літара Р: Г**р**ажынка, г**р**ак. А далей — новыя словы: **р**атунак, сп**р**авы, **р**ыжая, ту**р**боты, ат**р**амант, тво**р**ы, пё**р**ы, ва**р**она, пачы**р**ванела, ска**р**бы, твa**р**, п**р**эм'е**р** і г.д. Акрамя літары Р прыгадваюцца і вывучаюцца іншыя літары, напрыклад, літара Ж: **ж**аба, **ж**авачка, **ж**ыта, **ж**оўты, Гра**ж**ына... Праз усе падобныя словы аўтарка вучыць чытачоў вывучаць і любіць родную мову, правільна вымаўляць кожнае слова.

Кніжка Міры Лукшы складаецца з маленькіх апавяданняў, але ўсе яны маюць пэўны сюжэт і вучаць нас таксама любіць прыроду, адносінам паміж прыродай і людзьмі, мецъ хатніх жывёлак, берагчы іх, вывучаць іх норавы і паводзіны. Але Грак у кнізе не толькі птушка, якая толькі лятае і есць, але яна і разумная істота: умее размаўляць, нават выхоўваць, раіць, дапамагаць. Разумны Грак і ўсе тыя прыгоды і справы, якія адбываюцца вакол яго і Гражынкі, надаюць апавяданням інтрыгі, яны захапляюць чытачоў, іх хочацца чытаць і чытаць, каб больш даведацца пра Гражынку і Грака.

Ёсць у Міры Лукшы кніга „Бабскія гісторыі”. Таму і „бабскія”, бо апавядаюцца кабетамі, якія выяўляюць менталітэт вясковых кабет. Новую кнігу можна назваць „Грачынымі гісторыямі”, хаця іх не апавядае Грак. Але Грак — асноўная дзеючая асоба ў кнізе, нават большая за Гражынку. Без Грака яна не была б цікавай. Вось, напрыклад, як апісвае адзін з выпадкаў з Граком аўтарка ў апавяданні „Воля”. Гражынка з татам паехалі ў вёску. Да іх непрыкметна ў кошык залез Грак, які захацеў падыхаць свежым паветрам. У вёсцы Грак вылецеў на волю. Ён вольна падыхаў паветрам, убачыў з вышыні вёску, зямлю, дрэвы. Але не толькі вольна палятаў Грак, ён запрасіў да сябе іншых гракоў і пачаставаў іх „маміным пачастункам”. Грак пачаставаў сваіх сясцёр і братоў. Грак, хоць не быў з імі знаёмы, але ж ён ведаў, што гэта яго блізкія сваякі. Птушка Грак сваіх ведае. Гэта ж мы, людзі, адзін аднаго не заўсёды пачастуем, прытулім і накормім. А гракі — птушкі дружныя і вольныя. Вялікі падтэкст маюць апавяданні Міры Лукшы.

Ці пра знаёмства. Грак вылецеў на волю. Ён убачыў здаравеннага слімака і хацеў з ім пазнаёміцца і пасябраваць. Слімак быў страшэнна здзіўлены, што вялікая птушка хоча з ім сябраваць, а не з'есці яго: „Э-э-э, які ты дурань! Пасябраваць з дажджавым чарвяком! З бязногім круцялём! Яшчэ і пытаецца! Еш, не пытайся. А мяне не чэпіш, у мяне дом на спіне!”. І слімак схаваўся ў сваю хатку. Пасля гэтага Грак быў надта здзіўлены. Ён хацеў проста пазнаёміцца, пагутарыць, пасябраваць. Ён нават і не падумаў, што трэба есці слімака. Ён лепш з'есць булачку, бо булачка смачнейшая...

Галоўны герой кнігі Міры Лукшы — даволі сучасная птушка. Грак — гэта не які-небудзь чужынец, што прыляцеў да беларусаў і часова жыве ў беларускай сям'і і на беларускай зямлі. Грак Міры Лукшы — наша птушка. Грак цікавіцца ўсім беларускім, ён, напрыклад, уключае і слухае „Тры чарапахі”, ён хоча паехаць на „Басовішча”, добра ведае творчасць мастака Лявона Тарасэвіча. Вось які Грак — герой Міры Лукшы. Тут людзі ўсяго гэтага не ведаюць, колькі ведае Грак.

Кніга Міры Лукшы „Гражынка і Грак” — даволі арыгінальная, новая, нечаканая. Наогул, аўтарка ў апошнія гады ўмее здзівіць чытачоў тым, чаго часам не хапае ў беларускай літаратуры. Можа спадарыня Міра сапраўды, як пісала некалі Галіна Тычка, мае ўласны жаночы погляд на герояў сваіх кніг. Але гэтая любоў надзвычай міласэрная, нацыянальна-беларуская і па-чалавечы цёплая. Не важна, хто яе героі: птушкі, звяры, рыбы, людзі... Героі яе кніг па-сапраўднаму выхоўваюць чытачоў паважліва і шчыра адносіцца адзін да аднаго, паважаць, быць добрымі і смелымі, адкрытымі і светлымі, каб усім разам ратаваць гэты няпросты свет і час у якім мы сёння жывем. А яшчэ героі аўтаркі кнігі — выхоўваюцца беларускасцю, любоўю да сваёй зямлі і Бацькаўшчыны. А гэта — самае галоўнае.

Сяргей ЧЫГРЫН

# http://nasb.gov.by

Кожны год у Беларусі ўлада прысвячае чаму-небудзь. Так, пазалетась быў Год моладзі, летась — Год культуры, сёлета — Год навукі. Сэнс, які ўлады ўкладаюць у такія назвы, вельмі цьмяны. Па вялікім рахунку гэта працяг познесавецкіх практык хлусні і ашуканства, калі за знешнім расфарбаваным фасадам хаваецца ідэйная пустэча і маральная дэградацыя. Тым не менш, паколькі беларусы жывуць зараз у Годзе навукі, варта ўзгадаць тых, хто мае да навукі непасрэднае дачыненне. А гэта, у прыватнасці, Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, сайт якой месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://nasb.gov.by.**

„Нацыянальная акадэмія навук Беларусі (НАН Беларусі, ці НАНБ) з'яўляецца вышэйшай дзяржаўнай навуковай арганізацыяй Рэспублікі Беларусь — краіны ў самым цэнтры Еўропы. Акадэмія навук падпарадкоўваецца прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, падсправаздачная Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь і ажыццяўляе арганізацыю і каардынацыю фундаментальных і прыкладных навуковых даследаванняў, якія выконваюцца ўсімі суб'ектамі навуковай дзейнасці, правядзенне фундаментальных і прыкладных навуковых даследаванняў і распрацовак па важнейшых напрамках прыродазнаўчых, тэхнічных, гуманітарных, сацыяльных навук і мастацтваў з мэтай атрымання новых ведаў аб чалавеку, грамадстве, прыродзе і штучна створаных аб'ектах, павелічэння навукова-тэхнічнага, інтэлектуальнага і духоўнага патэнцыялу Рэспублікі Беларусь”, — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта, які, акрамя беларускай, мае рускую і англійскую версіі.

Там жа адзначаецца, што заснаваная ў кастрычніку 1928 года як Беларуская акадэмія навук і ўрачыста адкрытая 1 студзеня 1929 года, Нацыянальная акадэмія навук Беларусі з'яўляецца вядучым даследчым цэнтрам краіны, які аб'ядноўвае высокакваліфікаваных вучоных розных спецыяльнасцей і дзясяткі навукова-даследчых, навукова-вытворчых, канструктарскіх і ўкараняльніцкіх арганізацый.

Пра тое, якія структурныя падраздзяленні маюцца ў акадэміі, распавядаецца ў рубрыцы „Арганізацыі”, вывісцe на якую знаходзіцца з левага боку цэлага выяўлення. Дарэчы, будова сайта даволі простая і традыцыйная — падзелена на дзве часткі, дзе ў першай, левай знаходзяцца выйсці да рубрык, а з правага боку — асноўныя матэрыялы.

Варта адзначыць, што па меншай меры беларуская версія сайта абнаўляецца не надта аператыўна. Так, распавед пра выданні акадэміі са статыстычнымі дадзенымі тычацца 2012 года. Рубрыка „Навіны” таксама не адразу падае апошнія павєдамленні. Напрыклад, на ўсю Беларусь напрыканцы першага працоўнага тыдня красавіка прагрымела сустрэча беларускага прэзідэнта з навукоўцамі акадэміі, але пра гэта нават на момант напісання данага артыкула — 9 красавіка — на яе сайце нічога сказана не было.

Між тым віртуальнае прадстаўніцтва акадэміі ўтрымлівае поўныя звесткі аб гісторыі гэтай навуковай установы. У падрубрыцы „Гістарычная даведка” рубрыкі „Аб акадэміі” можна не толькі прачытаць падрабязны распавед пра асноўныя этапы яе развіцця, але і пабачыць здымак газеты „Звязда”, дзе яшчэ тарашкевіцай падаецца абвестка 1928 года аб рэарганізацыі Інстытута беларускай культуры ў Беларускую акадэмію навук.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара

Трагічны лёс беларускага дзяржаўніка



## 80 гадоў з дня гібелі
# Цішкі Гартнага

Дзеяч беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, дзяржаўны дзеяч БССР, гісторык, пісьменнік, публіцыст Змiцер Жылуновіч, больш вядомы пад псеўданімам Цішка Гартны, нарадзіўся ў Капылі (цяпер раённы цэнтр Мінскай вобласці) 23 кастрычніка 1887 г. Паходзіў з сялянскай сям'і. У1905 г. скончыў двухкласную школу ў Капылі. Працаваў рамеснікам-гарбаром у Капылі, Літве, Украіне. Браў удзел у рэвалюцыі 1905-1907 гадоў. Ствараў рукапісныя часопісы.

У траўні 1913 г. пачаў працу на заводзе „Вулкан” у Пецярбургу. У 1914 г. перайшоў на завод „Айваз”. Быў удзельнікам культурна-выдавецкай суполкі „Знание”. З лютага па снежань 1918 г. — сакратар Беларускага нацыянальнага камісарыята. Стаў рэдактарам першай беларускай бальшавіцкай газеты „Дзянніца”. Аўтар маніфеста аб утварэнні Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь, у 1919 г. — старшыня яе ўрада. У 1919-1920 гг. — сакратар газеты „Красная звезда” (Харкаў), палітработнік на Паўднёвым фронце Чырвонай Арміі. Пасля літаратурны супрацоўнік у штабе Заходняга фронту. З 1920 г. — сакратар і адказны рэдактар газеты „Савецкая Беларусь”. З 1921 г. жыў у Мінску, узначальваў Дзяржвыдавецтва БССР і Цэнтральны архіў, працаваў намеснікам наркама асветы і старшынёй Галоўмастацтва БССР, быў сябрам прэзідыума Інбелкульта і навуковым сакратаром камісіі па вывучэнні рэвалюцыйнага руху ў Беларусі.

Друкавацца пачаў з 1908 г. у „Нашай Ніве”. Першая кніга „**Pieśni**” выйшла ў 1913 г. У 1914-1929 гг. працаваў над раманам „Сокі цаліны”. Пераклаў на беларускую мову першую кнігу рамана „Апошні з удэге” Аляксандра Фадзеева, пачаў перакладаць „Мёртвыя душы” Гогаля. Цішка Гартны мог стаць першым народным паэтам Беларусі, але адпаведная пастанова не была зацверджана.

У сакавіку 1922 г. Жылуновіч наведаў Берлін, наладзіў выданне беларускіх падручнікаў і кніг. За два месяцы было надрукавана 10 назваў агульным накладам 138 500 экземпляраў (у тым ліку кніга паэзіі „Песьні працы і змагання” і першая частка рамана „Сокі цаліны” Гартнага). У красавіку 1922 г. узначаліў беларускае кааператыўнае выдавецтва „Адраджэнне”, якое за год выпусціла 14 кніг. Неўзабаве выдавецтва было звінавачанаў „нацыянал-шавінізме” і было пераназвана як „Савецкая Беларусь”. У снежні выдала яно першы нумар часопіса „Полымя”, рэдактарам якога стаў Жылуновіч. Спрабаваў разам з іншымі творцамі стварыць беларускую літаратурную арганізацыю „Вір”, але яго статут не зацвердзілі. У 1925 г. зноў ездзіў у Берлін на Другую Усебеларускую канферэнцыю. У 1927 г. годзе разам з Купалам, Чаротам і Зарэцкім наведаў Польшчу і Чэхію, выступіў перад беларусамі Варшавы. Ініцыятар стварэння літаратурнай арганізацыі „Полымя”. З 1928 г. — акадэмік Беларускай акадэміі навук. У 1934-1936 гг. працаваў у Інстытуце гісторыі.

Выключаны з ВКП(б) у пачатку 1931 г. з фармулёўкай „за сувязь з нацдэмаўскімі і фашысцкімі элементамі”. Арыштаваны 15 лістапада 1936 г., пераведзены вясной 1937 г. у Магілёўскую псіхіятрычную лякарню, дзе і памёр 11 красавіка. Па афіцыйнай версіі ад гангрэны лёгкіх. Па іншых звестках скончыў жыццё самагубствам, быў расстраляны ці закатаваны. Пахаваны на ўскраіне Пячэрскага парку ў Магілёве. На выяўленым месцы пахавання ў 1989 г. устаноўлены помнік. Творы Гартнага перакладаліся на рускую, украінскую і іншыя мовы. Яго імем названы вуліцы ў Мінску і Капылі.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Успамінаю школу ў Старым Ляўкове



У Пачатковую школу ў Старым Ляўкове я пайшоў 1 верасня 1951 года. Пайшлі з бацькам. Я не ведаў, што яна знаходзіцца ў суседняй вёсцы. Раней не прыйшлося мне бачыць столькі дзяцей як зараз убачыў і я спалохаўся. Бацька запісаў мяне ў канцылярыі і пакінуў мяне. «Як жа я цяпер вярнуся», — мільганула мне ў галаве. Выбег я са школы і ўбачыў старэйшую ад мяне суседаву дачку Веру Трусевіч ды яе сяброўку Любу Пучынскую з Новага Ляўкова. Яны паказалі мне, як вярнуцца дадому.



Калі быў ужо дома, я адразу заявіў бацькам, што ў школу больш не пайду. Лепш буду дапамагаць ім на гаспадарцы. Буду вельмі паслухмяны. Зраблю вазок і дровы буду ім вазіць. Але мама і слухаць мяне не хацела. Прыгразіла, што пра мой намер скажа бацьку. І было па справе. Яна пашыла мне палатняную зелянкавага колеру торбачку з двума гузічкамі на буквар, сшыткі ў дзве лінейкі і ў кратку ды аловак. На другі дзень раніцай я пайшоў у школу. Тады па пясчанай дарозе.

Школа займала два вялікія драўляныя будынкі з вялікімі ганкамі і такімі ж вокнамі. Яны знаходзіліся паабапал вуліцы. Пры школе раслі прыгожыя вялікія дрэвы — ліпы і іншыя. Перад будынкамі былі клумбы з кветкамі, абгароджаныя маленькімі плоцікамі. Паабапал вуліцы былі школьныя высокія драўляныя агароджы ды брамы. Над адной брамай быў прыгожы прыстрэшак на чатырох слупах, накрыты гонтай. Непадалёк ад школы плыве рэчка Нараўка.

У стараляўкоўскую сямігадовую школу хадзілі дзеці са Старога Ляўкова, Новага Ляўкова, Лазовага, Плянты (пасля заканчэння навукі ў тамашняй чатырохкласнай школе), Сушчага Барка, Ахрымоў (там таксама была чатырохгодка), Падляўкова, Капітаншчыны, Кас'яноў, Бярнадскага Моста. Хадзілі 150 вучняў. Працавала ў ёй восем настаўнікаў і настаўніц.

У пяты клас прыйшлі новыя вучні — найбольш з Ахрымоў і з Плянты. За парту побач са мной сеў Юрка Бельскі з Ахрымоў. Ён быў адным з найлепшых вучняў у школе ў сваёй роднай вёсцы. Я на працягу чатырох гадоў не вылучаўся ў навуцы. Вучыўся ненайгорш і пераходзіў з класа ў клас. А тут я задумаўся, як мне быць. Пастанавіў раўняцца ў ацэнках да Юркі. І ўзяўся я лепш чымсьці дагэтуль рыхтавацца да ўрокаў. Мой новы калега першым падымаў руку ўгору, каб адказваць на пададзеную тэму, падымаў і я. Настаўнікі былі задаволены, што я стаў больш актыўным на ўроках і заўважылі, што пачаў адказваць на пяцёркі найперш з гісторыі, а пасля з геаграфіі і затым з іншых прадметаў. У сёмым класе я меў такія самыя ацэнкі як мой сябра Юрка. Як памятаю, мелі мы па восем пяцёрак і па дзве чацвёркі. Прызнаюся, што нялёгка было мне раўняцца да перадавіка ў навуцы. Я быў найстарэйшы з дзяцей у сям'і і трэба было дапамагаць бацькам. Бывала, толькі прыйду са школы і бацька кажа: «Пакуль сцямнее, паедзем у лес дроў загатовіць». Едзем, а я выцягваў з-за пазухі кніжку або сшытак. Юрка меў старэйшага ад сябе брата, які мог яго заступіць. Калі я быў вучнем сёмага класа, пачаў высылаць допісы ў «Зорку». Яны былі надрукаваны. Тады напісаў першае апавяданне «Па грыбы». Высылаў рашэнні адгаданак і атрымліваў узнагароды.

У «Зорку» пачаў пісаць Юрка Бельскі (першым допісам быў верш).

У школе ладзілі акадэміі з дэкламацыямі вершаў, скетчамі ды са спевамі і музыкай, навагоднюю ёлку з мастацкай часткай. Кожны год ездзілі на краязнаўчыя экскурсіі. Час у школе пралятаў хутка. На г.зв. доўгім перапынку між урокамі зімой дзеці ляпілі балвана або каталіся на санках з горкі ўніз на бераг ракі, вясной пускалі папяровыя лодачкі на ваду ў раўчаку побач школы, а яшчэ хто іншы займаўся футболам. Дзяўчаты з малодшых класаў восенню і вясною ахвотна гулялі «ў клясы» ды са скакалкамі.

Пасля заканчэння навукі ў пачатковай школе я пайшоў вучыцца ў Агульнаадукацыйны ліцэй у Гайнаўцы і пасля ў Настаўніцкую студыю ў Беластоку. Здабыў прафесію і вярнуўся працаваць настаўнікам... у стараляўкоўскую пачатковую школу. Тут амаль нічога не памянялася. Настаўніцкі пакой (усе называлі яго канцылярыяй) быў нязменна ў тым самым месцы — у канцы калідора. У класах былі кафляныя печы, якія ў нашых беларускіх вёсках называюць сцяноўкамі.

Я пачаў працаваць з некаторымі настаўнікамі, якія раней тут мяне вучылі. Адзін з настаўнікаў, Мікалай Барташук, вучыў мяне ў першым класе, а іншыя, між іншым, Надзея Пяткевіч ад пятага да сёмага. Дырэктарам школы быў мой стрыечны брат Васіль Целушэцкі. Прыйшлі маладыя настаўнікі Міраслава Андрушкевіч, Ніна Кірылюк, Марыя Харкевіч, Яўген Валкавыцкі і Мікалай Варанецкі. Школу час ад часу наведваў вясёлы жыццерадасны, з гумарам настаўнік-пенсіянер Міхал Івацік з Ахрымоў па адукацыі русіст). Ён усіх развесяляў, іграў на скрыпцы і прыгожа спяваў першнаперш рускія песні. У школе панавала прыемная атмасфера. У школе вялі мы вечаровыя курсы па запатрабаванні для дарослых, якія не мелі закончанай пачатковай школы. Тады ўжо ў Старым Ляўкове пачала працаваць керамічная фабрыка і прынятым на працу спатрэбіліся пасведчанні аб заканчэнні пачатковай школы.

... Ішлі гады. У школу ў Старым Ляўкове прыходзіла ўсё менш і менш дзяцей і яе закрылі. Калі было развітанне са школай я зрабіў вучням, настаўніцам Галене Рэент і Крыстыне Паскробка, а таксама настаяцелю Стараляўкоўскай парафіі а. Леаніду Янкоўскаму здымак на высокіх усходах на памяць. Быў тады пагодлівы, сонечны, але сумны дзень. Ужо не ў школе, а на ўсходах. На самым адыходзе. Апошні. Быў ён надрукаваны ў «Ніве».

Будынак школы быў без нагляду, меў забітыя вокны, пуставаў ды разбураўся і гміна яго прадала, калі знайшоўся купец. Новы яго ўласнік разабраў драўляную частку і ў перабудаванай на свой лад мураванай частцы робіць класныя спіртныя наліўкі. Існуе тут фабрыка без шыльда. Што так будзе са школьным будынкам, мабыць, нікому ў галаву не прыйшло.

❖Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

# Адгаданка

**1.** запрэжаны воз, **2.** кінатэатр, **3.** „мудрая" начная драпежная птушка, **4.** былая сталіца на Вісле, **5.** аснова драўлянага збудавання ў выглядзе пакладзеных адно на адно і змацаваных па краях бярвенняў, **6.** другі перыяд мезазоя ў... бюракрата, **7.** маці Каіна і Авеля, **8.** горад і прыток Дуная на захадзе Славакіі, **9.** незапрэжаная падвода, **10.** карцёжны волат, **11.** тысяча мілілітраў, **12.** носьбіт хамута, **13.** крэпасць бюракрата.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | | | 2 | |
| | | | | 3 | | | | |
| | 4 | 5 | | | | | 6 | |
| | | | | | 7 | | | |
| 8 | | | | | 9 | | | |
| 10 | | | 11 | | | 12 | 13 | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 13 нумара**

Вужака, джын, дом, дына, жук, ніва, піка, сук, якут.

Рашэнне: **Як у сакавіку туман, дык у жніва дожджык пан**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.

**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# 16.04 — 22.04

**(22.03. — 20.04.)** Сіла, мэтанакіраванасць, жылка да інтарэсаў. Аддзеліш важнае ад няважнага, няблага заробіш. Ды да 20.04. пагражае табе пачуццёвае расчараванне. 19-23.04. могуць выраіцца твае ворагі. Ненайлепшы час дамаўляцца з сябрамі. Да 19.04. вызначай мэты, стаў крокі да лепшай будучыні. Займіся сваім выглядам, папрактыкуйся.

**(21.04. — 21.05.)** 16-19.04. нечаканая пачуццёвая прыгода. Да 19.04. вельмі дбай аб здароўе, ашчаджай сілы. Хаця да 20.04. магчымае адчуванне, што перад табой вырас мур. Калі не падабаецца табе тое, што робіш, маеш усё для таго, каб пакіраваць сам сваёй кар'ерай. Быкі з трэцяй дэкады могуць рызыкнуць і выйсці на рынак з новай прапановай, пашукаць працы за мяжой. Зловіш вецер у свае ветразі! Шпацыруй хоць гадзінку.

**(22.05. — 22.06.)** Усё ідзе пакуль з цяжкасцю, пачакай да апошняга тыдня! Больш часу прысвяці каханай асобе. Сярод людзей з 21.04. (да канца месяца) паправяцца лады. Выберыся з сябрамі куды-небудзь. На працы прыкладвайся да заняткаў, будзь лаяльны. Будзь вельмі асцярожны 19-23.04. — цікуе кампраметацыя! Пасля 21.04. будзеш мець шчасце да інтарэсаў (асабліва калі ты нарадзіўся ў маі). Абдумвай усе свае рашэнні. Часцей выходзь на двор.

**(23.06. — 23.07.)** Маеш шанц зрабіць тое, што табе звычайна не атрымлівалася. Можаш трапіць у нязручную сітуацыю да 20.04. Цяпер моцныя твае канкурэнты. Могуць трапіцца непрадбачаныя сітуацыі, але дасі сабе рады ў розных акалічнасцях. Будзеш жыццярадасны і моцны. Хаця ў пачуццях яшчэ марна. Удалыя бізнесовыя сустрэчы 15-19.04. Не бойся выдаткаў, пасля залатаеш «дзірку» ў бюджэце.

**(24.07. — 23.08.)** Не ўцякай ад сур'ёзных размоў. 19-21.04. выкарыстай шанцы на немалы заробак! Дасі рады з новымі выклікамі, зрэалізуеш тое, што хочаш. Пільнуй сваіх спраў, таксама ў сеціве, бо і там не будзеш ананімны. Маеш шанц павялічыць сваю сям'ю. Твой індывідуалізм можа прынесці праблемы сярод супрацоўнікаў; пра ўсё мусіш дамаўляцца. Крыху няладна са здароўем і настроем (да 20.04.), не будзь бравурны. Апранайся цёпла.

**(24.08. — 23.09.)** Больш абавязкаў, але будуць узнагароды. Хаця будзеш мець уражанне, што непатрэбна дарам нарабіўся (16-20.04.). Дасі рады выблытацца з праблемных сітуацый і адносін. Не ўваходзь другі раз у тую самую раку ў пачуццях! Можа цябе зацікавіць хтосьці новы. Або лепш пашукаць сабе... чатырохногага сябра. Знайдзі спосаб на суцішэнне нерваў, дыхай, падкрэслі сваю красу новай прычоскай ці адзеннем. З 22.04. пачнецца канструктыўная змена.

**(24.09. — 23.10.)** 15-19.04. рамантычнае захапленне. Найважнейшае пойдзе па тваёй думцы. Будзеш дзейнічаць спраўна і з поспехамі. Можаш здабыць новага сябра. Не хваліся заробкамі і ўмеласцямі. Рабі сабе перапынкі на працы, не перанатужвайся. З 22.04. адчуеш сябе панам сітуацыі.

**(24.10. — 22.11.)** Не будзь лішне падазроны. 19-23.04. нейкая злосная заўвага можа цябе раздражніць. Не рэагуй агрэсіўна і нервова. Магчымае новае каханне! Калі схочаш зацікавіць сваёй асобай кагосьці, будзе дасканалы момант; важнае першае ўражанне! На працы стаў на супрацоўніцтва. Скарпіён з другой дэкады: ажыццяўляй свой бізнес-план! Не еж белага хлеба.

**(23.11. — 22.12.)** Прыпяваючы і спакойна вырашыш шмат праблем. Можаш сустрэцца са старым сябрам, вернуцца ўспаміны. Дакажаш, што з табою трэба лічыцца. На працы твае дасягненні заўважацца. Пасля 20.04. можа цябе знайсці добрая работа. З 22.04. шматабяцальныя прафесійныя і кампанейскія кантакты. Пі ваду і зёлкі.

**(23.12. — 20.01.)** 15-19.04. атрымаеш цікавыя заданні, што можа быць дарогай да павышэння. Змагайся за сваё. Не дай сябе выкарыстоўваць, ані выбіраць паміж сям'ёй і кар'ерай. Магчымая несправядлівая крытыка, але да змагання змабілізуюць цябе зоркі. Рамантычныя хвіліны ў спальні (15-19.04. у тваё жыццё ўступіць вельмі цікавая асоба). Не злуйся на фармаліста за пісьмовым сталом.

**(21.01. — 19.02.)** Да 20.04. хтосьці схоча цябе «абшмараваць». 15-20.04. можаш адчуць паслядоўнасці сваіх адступленняў. Пазітыўныя вынікі заахвоцяць цябе да далейшай працы. Узмоцняцца твае дасягненні на ўсіх палях. Але не кранай тэмы павышэння. Не еж чырвонага мяса і смажаніны. Пакатайся на роліках!

**(20.02. — 21.03.)** 15-19.04. чакаюць цябе кампліменты, вылучэнні, узнагароды. Да 20.04. не ўяўляй сабе таго, чаго няма. Чакаюць цябе немалыя прыбыткі! Можаш пагадзіцца з працаўнікамі і пераканаць да сябе апазіцыю. Калі ты нарадзіўся ў лютым, можаш аформіць цяпер новае жытло. Зменіш хораша свой імідж.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**



Веснавыя разводдзі на Прыпяці, 6 красавіка 2017 г.

# У палескай глыбінцы (81)

За палацавай барочнай брамай прывітаў пошум старых дрэў і нервовы крык гракоў. Я апынулася на экалагічнай сцежцы «Стары парк над Стаходам». Спачатку я не ведала, што думаць. Усё, што тут адбывалася, не падыходзіла да прывезеных з сабой уяўленняў пра экалогію. Задачай і мэтай сцежкі, як інфармаваў стэнд ля ўвахода, з'ўлялася знаёмства з паркавым мастацтвам і дбайнасць пра прыроду. Адначасова месца мела служыць для масавага адпачынку і спартовых спаборніцтваў, у тым ліку міжнароднага значэння. Такое спалучэнне задач і мэт не абяцала асаблівай увагі для старых дрэў і гістарычных слядоў, якія тут знаходзіліся на паверхні і пад зямлёй. Якраз пад паркам знаходзіліся артэрыі падзямельных ходаў і тунэляў, якія спалучалі палац, два манастыры і два касцёлы ды выходзілі ля сяла Судча, пяць кіламетраў за Любашовам. У народзе жыве легенда яшчэ пра іншы тунэль, які цягнуўся васямнаццаць кіламетраў, ажно да сяла Свалавічы, дзе выходзіў на Прыпяць. Праўда, падзямельныя ходы па сённяшні дзень ахінуты аўрай сакрэтнасці і нават гісторык Сцяпан Аласюк не ведаў іх прызначэння. Усе будаўнікі былі забіты і пахаваны ў непазначаным месцы. Безыменны магільнік быў знойдзены ў савецкія гады, калі капалі зямлю пад новыя будынкі. Як не цікава, тунэлі збудавалі ў сярэдзіне васямнаццатага стагоддзя. Любашоў належаў ужо вялікаму гетману літоўскаму Яну Антону Чарнецкаму, герба Прус. Даследчыкі адзначаюць, што ён надта разбагацеў на Любашове...

Калі я перасякала барочную браму, ведала, што ступаю па выключнай тэрыторыі. Ды не толькі беручы пад увагу тунэлі, сусветныя былі і тусоўкі, пра якія пісаў падарожнік Асэндоўскі. На Валыні захаваліся толькі пяць палацавых паркаў. Апошнія былі спалены ў часы ваеннага ліхалецця або пайшлі пад мужыцкую сякеру.

* * *

Ужо з першых крокаў я зразумела адукацыйную ролю «экалагічнай сцежкі». Па пясчанай алеі сярод старых дрэў беззаконна праязджалі кавалеры на гучных мапедах, за якімі ўздымаліся хмары пылу. Бравурны парад не меў нічога супольнага з пустой паказухай. На кожным маторчыку туліліся дзеўкі з распушчанымі валасамі, відавочна ўзбуджаныя казацкай яздой. Закаханыя парачкі перамяшчаліся таксама сярод дрэў і кустоў у пошуках інтымнага закутка. У парк я выправілася з кніжкай пра Тадэвуша Касцюшку, але на месцы не было адной хвіліны спакою, каб яе раскрыць і пагартаць. Дзікія крыкі даносіліся з боку стадыёна, прыхаванага ў сэрцы гістарычнага парку. Якраз адбываўся трэнінг юніёраў бегуноў, якія куругаля бегалі па чырвонай сцежцы. Іх падбадзёрвалі балельшчыкі юніёры, якія расселіся на трыбунах. Яны верашчалі на ўсё горла, састаўляючы канкурэнцыю для паркавых гракоў і галак. Непадалёк рабочыя ў жоўтых камбінезонах расстаўлялі вялізнае, жоўтае патыё пад піўнушку. Іх лянівую працу спавівала тупая музыка тэхна. Ніхто тут не жадаў і не шукаў спакою...

Але я не здавалася. У пошуках цішыні я накіравалася на бераг Стахода, які вызначаў паўночную мяжу ахоўнай зоны. Любашоўскі парк займае 12 кіламетраў. Ён закладзены на натуральным адрэзку пушчы. Асноўную яго частку складаюць дубы, граб і алешнік, якія са старых часоў захаваліся па наш дзень. На жаль, мне не пашанцавала ўбачыць раку, якая калісь гарманічна спалучалася з паркам. Увесь маляўнічы бераг Стахода схаваўся ў джунглях трыснягу. Нават з вышыні панарамнай тэрасы я не пабачыла вады. А жаль. За сцяной трыснягу таксама адбываліся нейкія ігрышчы. Ад ракі даносіліся смех, радасны віск, крыкі дзяўчат і хлапцоў, якія купаліся ў тонях ракі.

На шпацыр па палацавым парку найлепш адправіцца з тоўстай дубінай. У кожны момант можа вас абскочыць бяздомнае сабарно. Каб адагнацца ад аблезлых дварнякоў, я была вымушана шпацыраваць з тоўстай галінай, якую падабрала проста з зямлі. Раптам маю дарогу перасякла старэча са статкам коз. Бабулька прыгнала жывёлу ў парк на папас. Яна пяшчотна сцёбала іх па баках, ласкава папракала і называла па імені:

— *Каб цябе, Ксюшанька, воўк ухапіў!*

У адказ козачкі весела памэквалі. Пасля абкружыла іх зграя бяздомных дварнякоў, якую бабулька абкінула дзікім матам. Я не пацікавілася, ці на адукацыйнай сцежцы адбудзецца казарэз. Чым хутчэй пашыбавала ў свой гатэль, каб адпачыць ад расхваленай зоны адпачынку.


Экалагічная сцежка


Спартовы стадыён у Любашоўскім парку

* * *

У Любашове, на пытанне, хто заснаваў іх парк, гаварылі ўпэўнена: савецкая ўлада. На самой справе парк разам з мураваным палацам і брамай у стылі барока збудаваў князь Міхал Вішнявецкі. Багаты пасаг, атрыманы за жонкай, не паслужыў доўга маладажонам. У красавіку 1706 года Любашоў спалілі шведы. Разам згарэў драўляны палац Дольскага, той самы, куды прыязджалі чужаземцы, каб захапляцца «надта адукаванымі лакеямі і пакаёўкамі».

Шведскі апакаліпсіс у пэўнай меры ўтаймавалі веснавыя разводдзі Прыпяці і Стахода. Беларускі гісторык Андрэй Катлярчук аднайшоў пра гэтае здарэнне запіскі ў шведскіх крыніцах*:

*"У пачатку красавіка 1706 г. войска Карла XII выйшла з Жалудка й праз Дзярэчын і Азарніцу 14 красавіка ўвайшло ў мястэчка Ружаны (Ражаны), адну з рэзыдэнцыяў Сапегаў, але Рыгор Агінскі й расейцы знішчылі мястэчка, якое належала Сапегам, і палац, які ляжаў у руінах. Апроч жыдоў, якія трымалі тут ешыбот, мы не сустрэлі тут ніводнага жыхара". Наступным местам прыпынку караля была веска Альба, „найзамажнейшая цудоўная сядзіба Сапегаў, дзе мы як мае быць адпачылі". 18 красавіка 1706 г. Карл XII з войскам дзень адпачываў у Бярозе Картускай. Кароль наведаў кляштар картузаў, „які шчодра фундавалі Сапегі"...*

*Неўзабаве праз Хомск, Дружылевічы й Ставок Карл XII 24 красавіка 1706 г. рушыў на Пінск. Тут Карл XII падняўся на вежу кляштара езуітаў (Jesuiternas Closter), якая была найвышэйшай у месьце (som det hogsta i staden), і дзьве гадзіны размаўляў на лаціне зь сьвятаром, рэктарам езуіцкага калегіюму (talade han Latin under tva fulla timmar). На жаль, падрабязнасьці гэтай гутаркі невядомыя, бо ў вежы бракавала месца для іншага ўдзельніка. Але вядома, што, пазіраючы на бязьмежнае „Палескае мора", уражаны бязьмежнымі прасторамі вады навокал, швэдзкі кароль напісаў на мурох вежы: „non plus ultra" („на тым баку анічога няма"). Надпіс гэты добра ілюструе эрудыцыю Карла XII, бо дэвіз „non plus ultra" доўгі час упрыгожваў дзяржаўны герб Гішпаніі, якая лічылася апошняй краінай тагачаснага сьвету. Але калі Хрыстафор Калюмб адкрыў Амэрыку, дэвіз „non plus ultra" зьмянілі на „plus ultra" („ёсьць яшчэ зямля"). Пакуль Карл XII каля месяца жыў у Пінску, швэдзкія войскі здабылі перамогу над расейцамі пад Клецкам, пасьля аблогі захапілі Ляхавічы. 12 траўня 1706 г. Карл XII наведаў пратэстанцкую „сталіцу" Беларусі Слуцак — места, дзе адбываўся генэральны сынод кальвіністкага сьвятарства й шляхты. Места належала прынцу Карлу Нэйбургу (Karl Philip Neuburg, 1661-1742), мужу апошняй пратэстанткі з роду Радзівілаў Людвікі Шарлёты Радзівіл (1667-1695), дачкі паплечніка Карла X Януша Радзівіла. Згодна з Адлерфэльдам „Карл XII не спыніўся на ноч у гэтым месьце, адным з найбольшых у гэтай краіне, ды вярнуўся з эскортам у Пінск".*

*23 траўня 1706 г. войска Карла XII, дачакаўшы добрага надвор'я ды сходу вады, рушыла праз Дубаі й* ***Любашоў*** *у кірунку Ўкраіны па сьлядох расейцаў. Каб кантраляваць сытуацыю ў Беларусі, Карл XII пакінуў у Берасьці швэдзкі гарнізон на чале з генэралам Ёханам Мэерфэльтам (Johan August Meijerfelt, 1664-1749). Згодна з швэдзкімі крыніцамі, „Пакуль Мэерфэльт стаяў у Берасьці, астатняя частка шляхты й магнатаў гэтай краіны прысягнула каралю Станіславу, каб пазьбегчы лёсу Радзівілаў". Швэдзкі паход 1706 г. скончыўся ўсталяваньнем кантролю Швэцыі над Заходняй і Цэнтральнай Беларусяй".*

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**

* А. Катлярчук, *Швэды ў гісторыі й культуры беларусаў*, Мінск 2002.

ISSN 0546-1960